# МЫ СУСТРЭНЕМСЯ Ў МАСКВЕ






На першай старонцы вокладкі: **Фестывальнае факельнае шэсце. Малюнак П. Калініна.**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Эмблема Беларускага фестывалю.**



## МЫ СУСТРЭНЕМСЯ Ў МАСКВЕ

Словы **Э. АГНЯЦВЕТ**

Муз. **Я. ГЛЕБАВА**



На фестывалі, у Варшаве,
Было нямала добрых спраў.
Студэнт з Варшавы, хлопец бравы,
Дзяўчынку з Мінска пакахаў.

Сніў ён вочы сінія,
Песні салаўіныя;
Праз туманы і лясы
Бачыў золата касы.

Ён з галубамі і вятрамі
Лісты да мілай пасылаў.
Над сіняй Віслай вечарамі
Па-беларуску ён спяваў.

І пісала мілая:
«Помню. Не забыла я.
Дружба верная жыве.
Мы сустрэнемся ў Маскве!»

І сто разоў ён ліст чытае,
Лятае ў марах над Масквой.
Дзяўчынку з Мінска называе
Нявестай любаю сваёй.

Добры дзень, маскоўскія
Вуліцы сяброўскія,
Мора яркае агнёў!
Добры дзень, мая любоў!

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі**

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання V.

Сакавік.

**№ 3(48).**
**1957.**

# Фестываль

У падрыхтоўцы да свайго школьнага фестывалю ў Мінскай сярэдняй школе № 22 удзельнічалі ўсе: і дзесяцікласнікі, і вучні малодшых класаў. Напярэдадні школьнікі завязалі сяброўскую перапіску з юнымі сябрамі з розных саюзных рэспублік СССР, з піянерамі краін народнай дэмакратыі. Школьныя ўмельцы зрабілі фестывальныя ўборы, маскі, ілюстрацыі да казак, рознастайныя шкатулкі, наглядныя дапаможнікі; юннаты вырасцілі кветкі. Кожны клас вывучаў адну з саюзных рэспублік або краін народнай дэмакратыі.

Развучваліся беларускія танцы, песні, песні на розных мовах — армянскай, балгарскай, нямецкай, кітайскай, рознастайныя танцы і гульні. Да фестывалю падрыхтаваліся як мае быць і фотааматары.

Нарэшце — фестываль! На сваё свята школьнікі запрасілі гасцей — колішніх выпускнікоў, а таксама студэнтаў, бацькоў, перадавікоў вытворчасці з прадпрыемстваў.

Пракаціліся гукі піянерскага горна. У залу ўрачыста ўвайшлі радасныя школьнікі-дэлегаты, апранутыя ў нацыянальныя касцюмы.

Дырэктар школы А. А. Кісялёў павіншаваў прысутных з адкрыццём школьнага фестывалю. Выдатніца вучобы Лера Малочнікава ўзнімае фестывальны сцяг. Усе ўдзельнікі пяюць Гімн дэмакратычнай моладзі свету. Велічна гучыць харавая дэкламацыя аб дружбе і міры.

Песні змяняюцца танцамі, дэкламацыі — гульнямі. Зноў песні, скокі.

Спявае ўся зала...

Фотааматары спяшаюцца схапіць на плёнку лепшае на свяце. У каго атрымаюцца самыя арыгінальныя здымкі? Кожнаму хочацца мець свой фестывальны альбом.

Шмат радасці і весялосці прынёс школьны фестываль дзецям. З лепшымі нумарамі яны выступяць потым на ўсебеларускім свяце моладзі.

На здымках:

Юныя аматары Андрэй Суркоў і Уладзімір Самцоў нарыхтавалі свае фотаапараты.

Гледачы...

Клава Панфілянок і Таня Хацкевіч у суправаджэнні скрыпача Валодзі Эфрона выконваюць нямецкую песню «Ёлка».

Балгарскі танец у выкананні трэцякласнікаў. На пярэднім плане — Валя Кастрова і Валодзя Сінявін.

Шахматысты — таксама ўдзельнікі фестывалю. Валерык Забродзін і Юра Віннікаў аспрэчваюць першынство.

Юныя ўмельцы з V класа падрыхтавалі лепшыя свае работы на фестываль.

Фота А. Гарэльчыка.



Дазвольце пазнаёміцца... Антось ЦЫБУЛЬКА.

Дарагіх чытачоў, відаць, дужа цікавіць: хто я, адкуль і якое маю права хадзіць па старонках часопіса, умешвацца ва ўсялякую справу. На ўсе гэтыя пытанні я даю адказ.

Нарадзіўся я ў студзені 1957 года. Мой бацька мастак Анатоль Волкаў тлумачыў мне, што бусел на доўгай дзюбе прынёс мяне да яго з рэдакцыі вашага часопіса. Калі ён маляваў мяне, дык увесь час ламаў галаву над тым, якая вопратка больш за ўсё мне да твару. Мне гэта надакучыла, і я сказаў яму:

— Дзівак хіба вопратка ўпрыгожвае чалавека, а не ён яе. Важна, каб вось тут было, — я стукнуў сябе па шырокай лабаціне.

Мой бацька зарагатаў, чырк-чырк пяром, і я адзеў канцэртны фрак.

Слова гонару, да гэтага я ніколі не насіў яго. Я нават разгубіўся спачатку. Думаю, што мне рабіць? Але, адгарнуўшы вокладку часопіса, адразу скеміў: мне трэба быць дырыжорам.

Ну, як вам спадабалася наша песня?

Вы скажаце, што я ўхіляюся ад адказаў і сам вас пытаюся. Ха-ха! На тое я Цыбулька.

На мяне ўскладаюць такія-сякія надзеі. Нават і прозвішча мне далі адпаведнае — Цыбулька. Але горкі я буду не для ўсіх. Сумленныя, працавітыя не будуць на мяне крыўдзіцца. Затое гультаі, абібокі, розныя там стылягі няхай асцерагаюцца, бо я да іх буду бязлітасным. Галоўная зброя мая — смех. І не думайце, што зброя гэта не вострая.

Але сёння, пры першым знаёмстве мне не хочацца выяўляць усе свае «горкія» якасці. У мяне настрой бадзёры, вясёлы. Давай руку, дарагі чытач, пойдзем са мной па старонках часопіса. Не толькі мне, але і табе, напэўна, цікава ведаць, як рыхтуецца беларуская моладзь да свайго фестывалю. За мной, сябры!



# НАПЯРЭДАДНІ СВЯТА МАЛАДОСЦІ

**Г. КРЫУЛІН,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

Можна з упэўненасцю сказаць, што мінчане яшчэ ніколі не бачылі такога масавага гуляння, удзельнікамі якога яны будуць летам гэтага года. На Усебеларускі фестываль моладзі прыедзе каля 5 тысяч гасцей — прадстаўнікоў розных абласцей рэспублікі. На шматлікіх эстрадах, у клубах, на стадыёнах і ў парках выступяць сотні мастацкіх калектываў, асобных выканаўцаў, спартсменаў, аматараў гульняў. Гэта будзе сапраўднае свята маладосці.

Такое вялікае мерапрыемства, безумоўна, патрабуе дасканалай падрыхтоўкі, якая вядзецца даўно,—больш шасці месяцаў. Яшчэ летась на прадпрыемствах, у калгасах, соўгасах, навучальных установах праводзіліся мясцовыя фестывалі. Крыху пазней фестывалі былі праведзены ў 80 гарадах і раённых цэнтрах рэспублікі. І ўсюды, дзе-б яны ні праводзіліся, збіралася вельмі многа моладзі. У масавых гульнях прыняло ўдзел каля мільёна чалавек.

Правядзенне фестываляў не з'яўляецца проста забавай. Фестывалі дапамагаюць развіццю самадзейнага мастацтва, павышэнню майстэрства маладых выканаўцаў. Яны садзейнічаюць выхаванню моладзі ў духу комунізма. Рыхтуючыся да фестывалю, маладыя рабочыя, калгаснікі актыўней удзельнічаюць у выкананні гістарычных рашэнняў XX з'езда КПСС.

З 28 ліпеня па 11 жніўня гэтага года ў Маскве адбудзецца наш Усесаюзны і VI Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. Вось чаму мясцовыя фестывалі, у тым ліку і Усебеларускі, з'яўляюцца нібы генеральнай рэпетыцыяй да вялікага свята моладзі.

Зроблена ўжо нямала. Летась камсамольцы Глыбокаўскага раёна правялі эстафету культуры. Калектывы мастацкай самадзейнасці аднаго калгаса прыязджалі ў другі, дапамагалі там ствараць гурткі. Тыя, у сваю чаргу, ехалі да суседзяў. Такія эстафеты былі праведзены і ў іншых раёнах.

Моладзь калгасаў «Беларусь» і імя Будзённага Жабчыцкага раёна, райцэнтра Камянец і іншых калгасаў, МТС, соўгасаў рыхтуе свае стадыёны.

У многіх калгасах будуюцца клубы, а там, дзе яны былі, моладзь рамантуе і ўпрыгожвае іх.

Знойдзены новыя формы культурна-масавай работы. У Мінску, напрыклад, створаны клуб творчай моладзі. Тут праводзяцца вечары адпачынку творчых работнікаў, наладжваюцца сустрэчы, выступленні. На Аршанскім заводзе «Чырвоны барэц» камсамольская арганізацыя правяла вечар-карнавал. Былі запрошаны госці з Віцебскай фабрыкі «КІМ», з падшэфнага калгаса. Моладзь спявала, слухала самадзейных артыстаў, удзельнічала ў рознастайных конкурсах.

У Палацы чыгуначнікаў г. Гомеля працуе клуб «Цікавых сустрэч». Мінскія, гродзенскія, віцебскія студэнты таксама маюць свае клубы.

У многіх абласцях праведзены выстаўкі твораў самадзейных мастакоў. Звыш 100 мастакоў далі свае карціны для выстаўкі самадзейнага мастацтва Маладзечанскай вобласці.

Цяжка пералічыць усё, што зараз робіцца ў комсамольскіх арганізацыях. Прыкметна толькі адно: падрыхтоўка да фестывалю садзейнічае разгортванню мастацкай самадзейнасці. Толькі ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці за апошні час створана больш 15 мастацкіх калектываў.

Усебеларускі фестываль, як вядома, будзе праводзіцца ўлетку. У ім прымуць удзел лепшыя калектывы мастацкай самадзейнасці рэспублікі. Выступяць таксама і прафесійныя артысты. Апрача гасцей з беларускіх гарадоў і сёл, у Мінск прыедуць дэлегацыі з брацкіх саюзных рэспублік.

У ходзе фестывалю намечана правесці конкурсы па класічнаму спяванню, фартэпіяна, скрыпцы, віяланчэлі, класічнаму балету, а таксама конкурсы на лепшы ансамбль песні і танца, на лепшае выкананне народнай песні. Усяго —больш 20 конкурсаў.

Мінчане і госці ўбачаць таксама шматлікія выстаўкі.

У фестывалі прымуць удзел перадавікі вытворчасці, тыя, хто і ў сваёй працы ідзе наперадзе.

Але размах падрыхтоўкі мог быць значна шырэйшым. Дзе-ні-дзе яна вядзецца яшчэ спакваля, не адчуваецца палепшання культурна-масавай работы. Не ўсё добра пакуль з падрыхтоўкай зацейнікаў, баяністаў. У асобных калектывах марудна рыхтуюцца праграмы.

Трэба мець на ўвазе, што шлях у Маскву ляжыць праз Усебеларускі фестываль. Тыя калектывы, якія перамогуць на конкурсах у Мінску, будуць удзельнічаць у заключных канцэртах на Усесаюзным і Сусветным фестывалях. Таму трэба адкінуць прэч маруднасць.

Па беларускай зямлі ў Маскву на VI Сусветны фестываль будуць праязджаць дэлегацыі з Еўропы, Афрыкі, Амерыкі. Пасля заканчэння VI Сусветнага фестывалю тысячы замежных дэлегатаў будуць гасціць у Мінску. Мы, савецкія людзі, вызначаемся асаблівай гасціннасцю. Моладзь мае ўсе магчымасці паказаць гасцям свае дасягненні. Кожны з гасцей будзе рады сувенірам і падарункам. Таму ўжо цяпер трэба пра гэта падумаць.

Наш Мінск — прыгожы горад. Але ён павінен быць яшчэ больш прыгожым, чыстым. Як бачыце, у комсамольцаў шмат работы.

Фестываль праводзіцца ў дні, калі народ рыхтуецца адзначыць 40 год Савецкай улады. Комсамольскія арганізацыі мабілізоўваюць усю моладзь на дастойную сустрэчу гэтага вялікага свята.







## Цудоўныя птушкі

**Студэнт Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры і спорту Кастусь Ігнацьеў — трымае ў руках беласнежных галубоў.**

**— Вось гэтых, — гаворыць ён, — мы так і называем — фестывальныя. Бачыце, якія яны прыгожыя, якія шырокія ў іх крыллі! Узняўшыся над святочным горадам, узмахамі сваіх крылаў яны нібы перададуць прывітанне сяброў з Украіны.**

**— Чаму з Украіны? — запыталіся мы.**

**— Таму што іх радзімай з'яўляецца горад Кіеў. Галубоў у нашай сям'і любяць усе: і бацька, і сёстры, і маці, і мы вырашылі выгадаваць да фестывалю не проста як мага больш галубоў, а абавязкова самых прыгожых і абавязкова рознай пароды, з розных гарадоў. Вунь тая стайка, што ўзляцела зараз над домам, — харкаўскія галубы. А тыя, што чысцяць крылцы на вільчыку — бачыце? — гэта сталінградскія. Ёсць у нас галубы і з беларускіх гарадоў, і з Прыбалтыкі...**

**— Колькі-ж іх у вас?**

**— З галубянятамі — каля пяцідзесяці. Памножце на два: па ліку крылляў, і атрымаецца, што за адзін узмах нашы прыгажуны перададуць удзельнікам фестывалю адразу сто прывітанняў. А як яны будуць кружыцца над горадам — залюбуешся! Двое вунь тых, чырвоных узнімуцца вышэй воблакаў і будуць у небе па некалькі гадзін...**

**— А гэтыя, чорныя? — пацікавіліся мы.**

**І Кастусь зноў з захапленнем гаворыць пра сваіх любімых гадаванцаў:**

**— Гэта зусім асаблівыя, дэкаратыўныя галубы. Лятаюць яны неахвотна і вельмі любяць зямлю, людзей. Ім можна бясконца сыпаць зерне, крошкі, і яны ўсё будуць кляваць і кляваць...**

**— Такія пражэрлівыя?**

**— Не! Яны проста любяць рабіць людзям задавальненне. Цудоўныя птушкі!**

**А. ГАНЬКОЎ.**





# Лёгкая перамога

**Валянцін ЗУБ**

Мал. Ю. Пучынскага.

**Скетч**

**Дзейнічаюць:**

**Пятрусь;**

**Віктар;**

**Караліна.**

Сцэна ўяўляе сабой малады садок. Відаць некалькі дрэўцаў, зеляненюць акуратна падстрыжаныя кусты, у цэнтры лаўка. З-за бакавой кулісы ўваходзіць Пятрусь, увесь абвешаны рознымі пакункамі.

Пятрусь (спатыкнуўся, пакункі ляцяць дадолу. Злосна). А каб на цябе! Трэці раз сёння спатыкаюся. (Нагінаецца, збірае.) Хоцьбы які кошык дала, ці авоську... А то ўсё рассыпаецца. А ўрэшце, і сама магла-б схадзіць. Цэлы дзень дома. А я і на працу, і на рынак, і ў магазін, нават кнігу няма калі пачытаць... (Сабраў пакункі, падняўся.) Ну і шчасце я сабе нажыў... (Ідзе далей.)

(З-за другой кулісы ўваходзіць Віктар, прыкладна на сярэдзіне сцэны яны сустракаюцца, глядзяць адзін на аднаго.)

Пятрусь (радасна). Каго бачу? Няўжо Віктар? Авой-авой...

Віктар. Ці не Пятрусь? (Працягвае руку.) Дай пацісну тваю руку.

Пятрусь. З вялікім задавальненнем, але... (Ніяк не можа вызваліць ад пакункаў руку. Нарэшце яму гэта ўдаецца. Віктар так моцна паціскае руку Петруся, што той ускрыквае і ўсе пакункі ізноў валяцца на зямлю.) Ой, што ты нарабіў?

Віктар. Прабач, крыху не разлічыў. Нешта разбілася. (Нагінаецца, дапамагае Петрусю сабраць пакункі.) Разбілася бутэлька з баржомам.

Пятрусь. Бутэлька з баржомам? Які жах!

Віктар. А каму гэта ты баржом нёс, сабе?

Пятрусь. Не, аднаму чалавеку.

Віктар. Цяпер усёроўна нічога не зробіш. Папросіш прабачэння.

Пятрусь. Але, давядзецца...

Віктар. Давай сядзем вось тут, на лавачцы. (Дастае хустачку, змахвае пыл.) Колькі-ж гэта мы не бачыліся?

Пятрусь. Гады са два прайшло.

Віктар. Каб-жа прайшло, а то праляцела, прамільгнула... Здаецца, яшчэ ўчора мы былі студэнтамі, а зараз, як гэта ў газетах пішуць, спецыялісты сельскай гаспадаркі.

Пятрусь. Маладыя.

Віктар. Не такія ўжо і маладыя. Па два гады стажу маем. А дзе ты цяпер працуеш? Я і не спытаўся.

Пятрусь. У міністэрстве.

Віктар. Канцылярскім начальнікам зрабіўся? Вось не чакаў ад цябе. Ты-ж так імкнуўся ў калгас, на жытнёвыя прасторы.

Пятрусь. Імкнуўся, але...

Віктар. Што але?

Пятрусь. Часам не так бывае, як хочацца.

Віктар. Што гэта за песімістычны настрой? Хіба камісія табе адмовіла ў пуцёўцы ў калгас?

Пятрусь. Камісія не адмовіла, толькі ў калгасе мне зусім мала давялося папрацаваць.

Віктар. Чаму?

Пятрусь (ухіляецца ад адказу). Так, здарылася адна акалічнасць. А ты дзе прызямліўся? Наколькі я памятаю, таксама ў канцылярыі.

Віктар. Быў такі грэх. Але, нарэшце, я-такі вырваўся з тае канцылярыі.

Пятрусь. Хто-ж табе дапамог?

Віктар. Жонка.

Пятрусь. Ты што, у аспірантуру паступіў?

Віктар. Не, еду, як ты сказаў, прызямліцца, аграномам у калгас.

Пятрусь (недаверліва). З жонкай?

Віктар. А як-жа.

Пятрусь. І яна згаджаецца паехаць разам?

Віктар. Не згаджаецца, а патрабуе!

Пятрусь (аж падскоквае). Няўжо нават патрабуе?

Віктар. Ага! Патрабуе. А чаму гэта цябе так здзіўляе?

Пятрусь. Не, зусім не здзіўляе. Звычайная з'ява. Скажы, а ты даўно ажаніўся?

Віктар. Тры месяцы таму назад. З Лідай Івановай. Помніш?

Пятрусь. Тры месяцы? Помню! Як-жа, ты быў у яе закаханы.

Віктар. Вось я і ажаніўся.

Пятрусь (у задуменні). А скажы, ці не мог ты адразу ўгаварыць дзяўчыну, каб яна за цябе замуж пайшла.

Віктар (пакрыўджана). Чаму так не мог? Я і не спрабаваў угаворваць. Настаў час і я прызнаўся Лідзе ў каханні...

Пятрусь (недаверліва). Ну і што, яна адразу і згадзілася пайсці за цябе?

Віктар. Не адразу, але згадзілася.

Пятрусь (спачувальна). Цяжка-ж табе далася перамога над уласнай жонкай.

Віктар. Уяві сабе, што я аб гэтым ні крапелькі не шкадую. А табе хіба лягчэй?

Пятрусь. Мне? Сёння пазнаёміліся, а назаўтра наша спатканне было ўжо ў ЗАГСе.

Віктар. Ты жартуеш.

Пятрусь. Жартую? Можа крыху і пажартаваў... Ну, не назаўтра, а праз тыдзень мы ўжо і запісаліся. Не хвалячыся скажу, з

усіх маіх сяброў, якія пажаніліся, у мяне была самая хуткая, лёгкая перамога.

Віктар. І як ты цяпер жывеш? Не памыліўся?

Пятрусь. Я? Калі гэта я памыляўся? Зойдзеш калі-небудзь да мяне, я цябе пазнаёмлю... Прыгажосці — незвычайнай, праўда, ёсць сякія-такія дробныя недахопы — у характары...

(Пятрусь і Віктар так захапіліся гутаркай, што і не заўважылі, як зайшла маладая, прыгожая жанчына і спынілася непадалёку ад іх, прыслухоўваючыся да іх размовы.)

Віктар. Людзей без недахопаў не бывае, толькі гледзячы якія яны.

Пятрусь. Ды не, у маёй Караліны недахопы зусім невялікія... Ну, напрыклад, яна вельмі не любіць, калі ёй робяць якія-небудзь заўвагі.

(Жанчына, якая прыслухоўвалася да размовы, раптам рашуча падыходзіць да хлопцаў і спыняецца насупраць Петруся.)

Караліна (грозна, не звяртаючы ўвагі на Віктара). Гэта ты так выконваеш мой загад? Я-ж табе сказала, каб умомант збегаў туды і назад.

Пятрусь (лагодна). Каралiначка, я зараз...

Караліна. А я гэта сяджу дома і месца сабе не знаходжу. Думаю, можа няшчасце з ім здарылася: пад машыну трапіў ці цагліна на галаву звалілася.

Пятрусь. Ды я-ж зусім хутка. Крыху толькі ў чарзе пастаяў.

Караліна. Відаць у якой чарзе ты стаяў... Сустрэўся бач... (Кідае злосны позірк на Віктара.) Ды яшчэ з кім папала жонку сваю абгаварвае.

Пятрусь. Не, гэта мой таварыш, разам вучыліся. Віктар. Знаёмся.

Віктар (неахвотна падае руку). Віктар.

Караліна. Караліна.

Пятрусь (падлашчваючыся). Мы зусім выпадкова сустрэліся, ну і разгаварыліся. А ведаеш, колькі мы не бачыліся? Два гады...



(Да Віктара.) А гэта мая жонка (Штучна смяецца.), вялікая жартаўніца. Яна заўсёды ў мяне арыгінальная.

Віктар (многазначна). Яно і відаць.

Пятрусь (намагаецца як-небудзь загладзіць непрыемнае ўражанне ад слоў жонкі). А ты, напэўна, падумаў, што гэта сур'ёзна яна такую размову павяла? Не, ёсць-жа такія людзі, што без жартаў ступіць не могуць. Памятаеш, нам расказваў выкладчык літаратуры, што нейкі пісьменнік упершыню прыехаў у горад на карове. (Смяецца.) Жартаўнік таксама, але мая Кара яму ў выдумцы не ўступіць.

Караліна (з пагрозай). Што ты сказаў? Хто так прыехаў?

Пятрусь. Ой, не! Нічога, Каралінка. Я ўжо забыўся. Гэта дзесьці ў Францыі было...

Караліна (строга). Пакажы, што ты купіў?

Пятрусь (паслухмяна разгортвае перад ёю пакункі). Ну вось, гэта сыр.

Караліна. Які?

Пятрусь. Ну, ты-ж бачыш які!..

Караліна (грозна). А я цябе прасіла які купіць?

Пятрусь. Яраслаўскі.

Караліна. Дык чаму ты купіў галандскі?

Пятрусь. Яраслаўскага не было.

Караліна (раззлаваўшыся). Ды ўжо-ж не было! Гэты сыр ты купіў, каб толькі зрабіць знарок насуперак мне. Ты ведаеш, што я яго не люблю.

Пятрусь. Кара, клянуся табе, не было яраслаўскага.

Караліна. Не было, ну дык і гэтага няхай не будзе... (Шпурляе сыр у кусты.)

Пятрусь (разгублена, стараючыся ўсміхнуцца). Ну, я-ж табе казаў, што яна без жартаў не можа. (Шэпча Караліне.) Не сароміла-б ты мяне хоць пры людзях!

Караліна (не звяртаючы ўвагі на яго). Паказвай, што яшчэ купіў?

Пятрусь (разгортвае пакункі). Вось тут мыла сямідзесяцідвухпрацэнтнае. Дзесяць кавалкаў.

Караліна. Дзесяць кавалкаў? Так шмат?

Пятрусь. Каралiначка, ты-ж столькі прасіла.

Караліна (ваяўніча). Я прасіла дзесяць кавалкаў?

Пятрусь. Чэснае камсамольскае, дзесяць.

Караліна. Ты за каго мяне лічыш?

Пятрусь. Клянуся, дзесяць... (Шукае па кішэні, знайшоў нейкую паперку.) Кара! Вось-жа, на, паглядзі сама. (Падае Караліне паперку.)

Караліна (глядзіць). Што гэта?

Пятрусь. Паперка, дзе ты сама, сваёю рукой напісала, што купіць. І вось тут. (Паказвае.) Глядзі напісана (Чытае.): Мыла—дзесяць кавалкаў...

Караліна (крыху збянтэжана). Гм... Няўжо я аж дзесяць кавалкаў... Гм... Нічога, Валянціне Леапольдаўне спатрэбіцца. Гэта жонка замміністра...

Пятрусь. Можна і так...

Караліна. А што я яшчэ загадвала купіць? (Чытае.) Каўбасы кракаўскай трыста грам.

Пятрусь (з гатоўнасцю паказвае). Вось.

Караліна (чытае). Цукру поўкіло.

Пятрусь. Вось.

Караліна. Халвы дзвесце грам.

Пятрусь. Вось.

Караліна. Крэм «Сняжынка».

Пятрусь. Вось ён. (Віктару.) Мая Каралiначка ўсё прыгажосць сваю беражэ...

Караліна (грозна). А што-ж? Каб я з гэтых гадоў ды ўжо бабуляй выглядала? (Да Віктара.) Хіба вы такога сваёй жонцы не жадаеце?

Віктар. Ой, што вы, што вы!.. Я жадаю ёй, каб яна заўсёды цвіла.

Караліна (Петрусю з дакорам). Бачыш, як разважае муж, які кахае сваю жонку па-сапраўднаму! І вельмі правільна, бо жонка павінна ўпрыгожваць побыт



мужчыны, ствараць утульнасць, а таму яна сама павінна быць прыгожай, як кветачка пахнуць. (Петрусю.) Зразумеў?

Віктар. Але адна кветка рана ці позна завяне, і тады прападзе і прыгажосць і ўтульнасць. А трэба зрабіць так, каб кветкі ў хаце не пераводзіліся.

Караліна. Каб кветка не завяла, яе трэба добра даглядаць, паважаць яе.

Віктар. А я за такія кветкі агітую, што на руках носяць. Нездарма-ж у народзе гавораць: дзеці — нашы кветкі жыцця. І мая жонка, напрыклад, ніколі не адмовіцца ад такіх кветак.

Караліна (суха). Ну, гэта асабістая справа кожнай жанчыны. (Заглядае ў паперку.) Што тут яшчэ было запісана? (Чытае.) Б-баржом. Ага, баржом ты купіў?

Пятрусь (дрыжачым голасам). Купіў, але...

Караліна. Што але?

Пятрусь. Разбіў.

Караліна (сціснуўшы кулачкі, пагражае Петрусю). Ты разбіў баржом?

Пятрусь (адступае). Я... я незнарок...

Караліна (наступае). Лепей-бы ты сабе галаву разбіў.

Пятрусь. Ну, што ты?! Хіба табе не шкада мяне?

Караліна. А хіба табе не шкада мяне? Мне ўрач прыпісаў кожны дзень піць баржом.

Пятрусь (адступае). Ведаю, ведаю, але так здарылася...

Караліна. У мяне-ж гастрыт...

Віктар (з насмешкай). О, гэта сур'ёзная хвароба. Ад гастрыта, па статыстыцы, паміраюць амаль дзевяноста працэнтаў хворых.

Караліна. Ты чуеш? Які прафесар вам гэта сказаў? (Раптам хапаецца за жывот.) Ой, мне нядобра. Ой! (Хістаючыся ідзе.)

Пятрусь (падбягае). Кара, Карачка, супакойся!

Караліна. Ой! Ой, баліць!

Пятрусь. Сядзь, пасядзі, можа зараз пройдзе...

Караліна. Я ведаю... Хочаш, каб я села ды не паднялася. (Галасна плача.) Вось які ў мяне муж!.. А я-ж яму столькі дапамагла. З вёскі перацягнула ў горад...

Віктар (з дакорам). Адарвалі ад зямлі.

Караліна (спадзеючыся, што яе думку падзяляюць). Ага, ага, гэта-ж я, я яму параіла ехаць адтуль. Ён цяпер не ходзіць па гразі.

Віктар. Не бачыць жытнёвых прастораў...

Караліна (зразумела, што з яе кпяць). Наадварот, ён зараз ездзіць у камандзіроўкі і бачыць не адзін калгас, а дзесяткі. Па маёй пратэкцыі ён працуе ў міністэрстве.

Віктар. Зрабілі канцылярскім пацуком...

Караліна (насцярожылася). А вам што да таго? Хіба вы таксама ў горадзе не аціраецеся?

Віктар. Я? Ды я, можна сказаць, развітваюся. Мы едзем з жонкай працаваць на Палессе.

Караліна. Ну і шчаслівай дарогі! А ў чужую справу не ўмешвайцеся. (Да Петруся.) Пеця, хуценька збірай пакункі і зараз-жа хадзем дадому. (Скоса пазірае на Віктара.) Гэта небяспечны чалавек.

Пятрусь (паслухмяна пачынае збіраць пакункі. Да Караліны). А як твой страўнік?

Караліна. Перастаў... не баліць ужо.

Віктар. Так, Пятрусь. Цяпер я сапраўды веру, што ў цябе была лёгкая перамога.

Пятрусь. А многія-ж мне не вераць, думаюць, што я выхваляюся.

Віктар. Толькі куды-б было лепш, каб у цябе ўсё было наадварот: лепш цяжкая перамога і лёгкае жыццё, чым лёгкая перамога і такое вось жыццё.

(Караліна, не развітаўшыся, адыходзіць. Пятрусь убачыў, што жонка пайшла і захваляваўся.)

Пятрусь (паспешліва развітваецца з Віктарам і, зноў абвешаны пакункамі, хуценька ідзе даганяць жонку). Караліна, пачакай! Кара!..

Віктар. Праўда, што Кара... і на ўсё жыццё за тваю лёгкадумнасць.

Заслона.



— Ну, як? Спадабалася?



Камсамолец Аляксей Герашчанка і брыгадзір муляраў Іван Шурмель на фестывальнай будоўлі.
Фота С. Чырэшкіна.

# ПАДАРУНАК

У камітэце камсамола ўзгарэлася гарачая размова пра сустрэчу фестывалю. Усе сыходзіліся на адной думцы: будаўнікі павінны як мае быць падрыхтавацца да гэтага маладзёжнага свята. Адны прапанавалі зараз-жа пачаць спеўкі зводнага хору па спецыяльнай фестывальнай праграме, другія падалі думку ўключыць у рэпертуар танцавальнага калектыву лепшыя беларускія танцы. Ды не дрэнна было-б падрыхтаваць і сваіх салістаў-спявачак, дэкламатараў.

— Гэта ўсё добра: і скокі, і спевы,— падаў голас звычайна негаваркі цясляр Іван Падалянкоў.— А калі, скажам, я ні спяваць, ні дэкламаваць не ўмею?.. А я-ж таксама хачу ўдзельнічаць у падрыхтоўцы да свята. А такіх, як я,— тысячы...

— Гэта слушная заўвага,— уставіў слова сакратар камітэта Валянцін Карзінаў.—Па-мойму, трэба нам зрабіць свой вытворчы падарунак, ды такі, каб ён быў гонарам усіх нашых маладых будаўнікоў.

— Я-ж і кажу пра такі падарунак,— падхапіў Іван Падалянкоў.— Дом пабудуем у гонар фестывалю!

— Правільна, Іван,— запляскалі ў далоні ўсе, хто быў у камсамольскім пакоі.— Новы дом — наш лепшы фестывальны падарунак.

Вестка аб тым, што камсамольцы вырашылі ў гонар фестывалю пабудаваць дом, хутка абляцела ўсе камсамольскія брыгады, усе будаўнічыя пляцоўкі. Будаўнікі ўхвалілі іванаву ініцыятыву. Муляры, цесляры, тынкоўшчыкі, кранаўшчыкі пераглядалі ўзятыя раней абавязацельствы, выклікалі адзін другога на спаборніцтва.

Ад імя членаў маладзёжнай брыгады муляраў Марыя Макарэвіч заявіла, што яе брыгада будзе выконваць зменныя заданні не менш чым на 180 працэнтаў, і выклікала на спаборніцтва цесляроў.

— Выклік прымаем,— адказалі хлопцы камсамольскай брыгады Станіслава Сыцько.

Маладыя будаўнікі, што будуюць шматкватэрны жылы дом на Стралковай вуліцы, вырашылі здаць яго датэрмінова — да дня выбараў у мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных.

А Іван Падалянкоў ужо дзяліўся сваёй думкай з сябрамі будаўнікамі інтэрната фабрыкі імя Крупскай.

— А што калі нашу будоўлю аб'явіць фестывальнай? — гаварыў Падалянкоў.

— А чаму-ж не,— згадзіліся будаўнікі.

Сакратар камсамольскай арганізацыі Пятро Шынкевіч, як чалавек на будоўлі новы, завагаўся:

— А ці справімся? Гэты-ж аб'ект запланаваны для здачы ў эксплуатацыю аж на кастрычнік...

— Вядома, справімся,— крыкнулі хлопцы.— Пішы соцумову!..

На камсамольскім сходзе дамовіліся здаць інтэрнат швейнікаў на два месяцы раней тэрміну — да адкрыцця Усесаюзнага фестывалю моладзі ў Маскве. Кожны малады рабочы абавязаўся павысіць нормы выпрацоўкі на 140—150 працэнтаў, дамагаючыся зніжэння сабекошту будаўнічых работ і эканоміі матэрыялаў.

... На фестывальнай будоўлі кіпіць работа. Строгі чатырохпавярховы прамавугольнік дома ўжо імкліва ўзняўся ўверх. Старанна, з агеньком папрацавалі муляры камсамольскай брыгады Івана Шурмеля. За чатыры месяцы зрабілі такі гмах!

Цяпер на пляцоўцы гаспадараць цесляры. У прасторных інтэрнацкіх пакоях запахла стружкай.

— За намі справа не стане, — заяўляюць цесляры,— праз які месяц усё скончым. Тым больш, што сёлетняя зіма дазваляе нам разгарнуцца...

— І за тынкоўшчыкаў можна не хвалявацца,— адказвае брыгадзір Аляксей Герашчанка. — Здадзім будоўлю, як вырашылі,— да фестывалю. Няхай дзяўчатышвейніцы жывуць-весяляцца ды пра нас, будаўнікоў, не забываюць. У нас, браткі, рэзерв хлопцаў невычэрпны, ды ўсе не абы якія — перадавікі!..

Дом-інтэрнат, у якім пасяляцца ўлетку дзяўчаты,— добры падарунак ад нашых слаўных будаўнікоў.

**Ал. ВЕЧАРКОЎ.**

**Мінск,**

**Будтрэст № 1.**



— Нашыя ключы роўныя... Так, дружа, вось гэта падарунак! Не толькі з песняй, але і з будаўнічай кельмай сустракаюць камсамольцы фестываль.

## Кветкі

Цяжка ўявіць сабе свята без кветак. І асабліва такое незвычайнае свята, як фестываль моладзі. Трэба ўпрыгожыць вуліцы, скверы, паркі горада, кватэры жыхароў. Вось і ўявіце сабе, колькі для гэтага спатрэбіцца кветак. Трэст зялёных насаджэнняў горада Мінска павінен вырасціць да фестывалю толькі для зрэзу на букеты 500 тысяч астраў, півоняў, руж і іншых кветак. Ні адзін з удзельнікаў фестывалю не адмовіцца купіць сабе прыгожы букет або падараваць яго свайму сябру — госцю з якой-небудзь рэспублікі ці краіны. А такіх гасцей на нашым свяце будзе многа.

Але букеты справа менш складаная, чым афармленне горада. Шмат трэба загадзя папрацаваць, каб азеляніць вуліцы і скверы, высадзіць кустарнікавыя расліны, зрабіць кветнікі. Для афармлення горада нам трэба выгадаваць больш 5 мільёнаў кветак. Будзе зроблена многа дыванных кветнікаў у скверах, на плошчах, на вуліцах. Зробім некалькі кветкавых ваз. Такія вазы вельмі ўпрыгожваюць месцы адпачынку і робяць прыемнае ўражанне. З восені закуплена і гадуецца некалькі сот кустоў руж, якія будуць высаджаны ў скверах і парках горада. Шмат цвітучых кветак, такіх, як сальвіі вогненныя, паларгоніі, геліятропы, каны, вяргіні, гладыёлусы, астры, анцірынумы ўпрыгожаць сваім рознастайным і маляўнічым выглядам месцы, дзе будзе весяліцца і паказваць свае майстэрства наша моладзь.

А колькі трэба выгадаваць расады кветак для насельніцтва! Кожны гаспадар хоць маленькага кавалачка зямлі захоча да фестывалю мець свае прыгожыя кветкі.

Шмат работы чакае нас — садоўнікаў, кветкаводаў рэспублікі. І мы спадзяемся, што да свята маладосці зможам упрыгожыць свой горад як найлепш.

**Ніна МЕЗІНА,**
**кветкавод.**



# На крылях песні

**В. ПАЛТАРАН**

Фото А. Дзітлава.



Салістка хору Валя Свірыдэнка.

У звычайны раённы гарадок Клецк мы прыехалі па песню. І не проста па песню,— яе знойдзеш у любым кутку нашай рэспубліцы,— а па мясцовую, клецкую. А каб наш чытач не толькі даведаўся пра яе стваральнікаў і выканаўцаў, але і ўбачыў іх, мы захапілі з сабой і фотаапарат.

Узнікла гэтая песня ў калектыве мастацкай самадзейнасці Клецкага раённага дома культуры. Склаў яе мастацкі кіраўнік гэтага калектыву, малады самадзейны кампазітар Міхаіл Кашуба. Называецца яна — «Клецкая фестывальная».

Лунае сёння песня над
прасторамі,
Дзе лён нядаўна так прыгожа
цвіў.
Ляціць яна над нівамі, над
горадам,
Яе пяе раённы калектыў.

Звычайныя словы, але з якой цеплынёю, з якім пачуццём вымаўляюць іх Валя Петрачкова, Вера Патэльская, Ліля Місюк, Коля Бандарчык, Жора Кананові і ўсе іншыя 40 з лішкам удзельнікаў хору! «Наша!» — з гонарам гавораць выраз твару кожнага спевака.

Нямала песень напісана да сусветнага свята маладосці — Маскоўскага фестывалю моладзі і студэнтаў. Але сярод іх не згубіцца прыгожая, простая, лёгкая мелодыя «Клецкай фестывальнай». Моладзь Клецкага раёна ідзе да фестывалю са сваёй прыгожаю песняй!

Ледзь толькі змоўклі адгалосы гэтай песні, як па зале паплыла ціхая, журботная мелодыя. Пра чыё-ж гэта гора, нібы словамі, выгаварвае засумаваўшы кашубаў баян? Услухоўваемся ў словы песні... О, ды гора такое нам добра вядома! Гэта не можа знайсці сабе прыстанку маладое закаханае сэрца. «Што-ж гэта за песня,—пытаемся.—Мы яе ніколі не чулі!» «Таксама наша, мясцовая,— адказвае Міхаіл Кашуба.— Словы яе напісаў настаўнік Сіняўскай сярэдняй школы Анатоль Курыльчык, ну, а музыку — я»...

«Дзявочая лірычная» — так называецца гэтая песня. Напісана яна для трох жаночых галасоў. Дзе-б ні выступаў мастацкі калектыў Дома культуры, трыё карыстаецца ў гледачоў асаблівым поспехам. Гэта, можа, яшчэ і таму, што ў выкананне песні шмат пачуцця ўкладваюць маладыя салісткі хору Вера Патэльская, Валя Петрачкова і Ліля Місюк.

— Пачакайце,— скажа нам чытач.— Вы-ж паехалі па адну песню...

Так, па адну, а пачулі іх многа, свежых, меладычных. Урачыстая «Песня аб партыі» на словы А. Курыльчыка, лірычная «Получил твоё письмо, родная» на словы В. Машына, «На закате» зноў на словы А. Курыльчыка... Паэты розныя, а кампазітар адзін і той-жа Міхаіл Іосіфавіч Кашуба. Не выпадкова мы вышэй сказалі, што ён — малады. І не толькі як кампазітар, але і як чалавек. Яму ўсяго 25 год — узрост самы «фестывальны». У 1949 годзе закончыў Баранавіцкую музычную школу па класу баяна. Потым служыў у арміі. І там захапляўся музыкай, складаў песні. Яго таварышы-салдаты павезлі гэтыя песні ў розныя куткі краіны. Асабліва падабалася ўсім песня «У знакомого окошка». Дэмабілізаваўся з арміі ў 1955 годзе. З гэтага часу працуе мастацкім кіраўніком самадзейнага калектыву пры Клецкім раённым доме культуры. Для поўнага знаёмства з ім дададзім: ажаніўся чатыры месяцы таму назад, на харошай дзяўчыне — Дані. І цяпер, як кажа Міхаіл Іосіфавіч, усе неадкладныя жыццёвыя справы зроблены, застаецца толькі адно, самае галоўнае— музыка...

Міхаіл Кашуба асцярожна дакранаецца сваімі спрытнымі пальцамі да гаваркіх ладоў баяна і, схіліўшы галаву, прыслухоўваецца да ціхіх гукаў. Можа гэта зноў нараджаецца песня?.. У такім выпадку, не будзем яму перашкаджаць...

Няхай не падумае паважаны чытач, што ў Клецку спяваюць толькі свае песні. Шырока і прыгожа гучаць тут беларускія, рускія, украінскія і польскія народныя песні, песні вядомых савецкіх і нашых самадзейных кампазітараў. Можа высокакваліфікаваны хормайстар і знайшоў-бы якія заганы ў самім гучанні хору, але ўсе, перад кім даводзіцца выступаць спевакам клецкага мастацкага калектыву, ахвотна даруюць ім іх недахопы, бо ведаюць, гэта не прафесіяналы, якія з раніцы да вечара толькі тое і робяць, што спяваюць. А гэтыя энтузіясты прыходзяць на рэпетыцыі і на канцэрты, добра напрацаваўшыся за дзень. Але ледзь павядзе баян знаёмую мелодыю, як іх вочы запальваюцца тым агнём, які гарыць хіба толькі ў вачах сапраўдных артыстаў, а твары становяцца натхнёнымі і прыгожымі. Паглядзіце на Валю Свірыдэнку. Гэта яна спявае ўкраінскую народную песню «Дощик». Слухачам усё падабаецца: і прыгожы, звонкі валін голас і яе мяккае ўкраінскае вымаўленне. Валя працуе таваразнаўцам у клецкім райспажыўсаюзе. На пытанне, як адчувае сябе сярод беларусаў, адказвае: «Та дуже гарно!»

Другая салістка хору Валя Пет-

Надзя Андрэева і Вера Патэльская спяваюць прыпеўкі. Акампаніруе Міхаіл Кашуба.



рачкова — працуе работніцай на клецкім пункце «Заготлёну». Салістка хору і нядрэнны дэкламатар, Вера Патэльская з'яўляецца інспектарам райфінаддзела. Запявала хору Коля Бандарык — вучань X класа, салістка Ліля Місюк — вучаніца IX класа. Розны ўзрост у гэтых людзей, розныя спецыяльнасці. Але ўсіх іх цесна здружыла вялікая любоў да мастацтва.

Мы пра песні загаварыліся, а там — глядзіце! — вунь ужо танцуюць. Ды як! Якім-бы задуменным ці стомленым ты ні быў, у гэтую хвіліну знікне і задуменнасць, і стома, і ты нават не заўважыш, як у такт танцу пачне зухавата прытупваць нага... А на сцэне ў вірлівым «Касімаўскім танцы» адзін перад адным спаборнічаюць у зграбнасці і прыгажосці рухаў хлопцы і дзяўчаты. Асабліва вылучаецца першая пара.

— Хто гэта?

— Надзя Андрэева, работніца раённай бібліятэкі...

— А хлопец?

— Ды гэта-ж наш Аляксандр Іванавіч Каткоў, дырэктар раённага Дома культуры.

Дык вось ён які, гэты Аляксандр Іванавіч! Яшчэ перад тым, як трапіць у клубную залу, мы ўжо добра ведалі яго прозвішча. Усе яго шукалі, усім ён быў патрэбны. Але зараз і тыя, хто прышоў да яго па неадкладнай справе, на момант забылі пра свой клопат і з захапленнем глядзяць на цудоўны танец.

Танец скончыўся. Аляксандр Іванавіч прайшоў па сцэне, і яго хада, уся пастава нечым нагадвалі былога марака. І сапраўды, ён марак. Служыў у флоце. Потым удзельнічаў у Ансамблі песні і танца Балтыйскага флоту. Родам сібірак, выхаванец дзіцячага дома. Вы спытаеце, які-ж шторм закінуў яго ў нашы беларускія шыроты? Ды сардэчны. І абудзіла гэты шторм у матроскім сэрцы цёмнавокая беларуская дзяўчына Зіна Кухарэнка. Дэмабілізаваўшыся з флоту, Аляксандр Іванавіч прыехаў у Клецк ды так тут і застаўся. Яго ў Клецку як і чакалі. Адразу спатрэбіўся яго вопыт ў наладжванні мастацкай самадзейнасці. У Аляксандра Іванавіча не толькі вопыт выявіўся, але і вялікія арганізатарскія здольнасці, уменне абыходзіцца з людзьмі. А галоўнае — чалавек моцна любіць сваю справу і аддае ёй усю душу.

— Ды ён днюе і начуе ў сваім Доме культуры,— часам скардзіцца на мужа Зіна Кухарэнка.

Аляксандр Іванавіч — на ўсе рукі майстар: ён і запявала добры, і танцор, ды і паэт, калі гэта спатрэбіцца. І ўсяму, што сам умее, ён з вялікай стараннасцю вучыць сваіх артыстаў. Таму і любяць яго ў калектыве, і паважаюць.

Рыхтуючыся да фестывалю,Клецкі самадзейны мастацкі калектыў робіць і другую вялікую і карысную справу: ён абслугоўвае канцэртамі выбарчыя ўчасткі раёна. І можна без перабольшвання сказаць, што амаль ва ўсіх калгасах добра ведаюць і заўсёды з нецярпеннем чакаюць агітбрыгаду Клецкага дома культуры.

Прыехаўшы ў калгас, клецкія артысты не сядзяць, склаўшы рукі. У кожнага з іх ёсць свае абавязкі. Ледзь саскочыўшы з машыны, вопытны бібліятэкар Надзя Андрэева спяшаецца ў сельскую бібліятэку. Тут заўсёды спатрэбіцца яе дзелавая парада, шчырая дапамога. Вера Патэльская дапамагае калгаснай рэдкалегіі выпусціць «Баявы лісток», насценгазету. Э. Ярмалінскі і Р. Каляда праводзяць з калгаснікамі гутаркі аб выбарах у мясцовыя Саветы. Аляксандр Каткоў паспявае пацікавіцца работай сельскага клуба, а таксама скласці к вячэрняму канцэрту прыпеўкі на самыя надзённыя мясцовыя тэмы. І самым большым поспехам карыстаюцца на канцэртах Вера Патэльская і Надзя Андрэева — выканаўцы прыпевак на мясцовыя тэмы. Дастаецца ў гэтых прыпеўках гультаям, п'яніцам, раскрадальнікам калгаснага дабра.



Трыё: Вера Патэльская, Валя Петрачкова і Ліля Місюк выконваюць «Дзявочую лірычную».



Хораша танцуюць Надзя Андрэева і Аляксандр Каткоў.

Ёсць у нас Касцюк Вікенці.
З дня у дзень ён п'е і п'е.
А дадому прыдзе п'яны,
Дык дзяцей і жонку б'е.

Хто з калгаснікаў калгаса імя Жданава Даматканавіцкага сельсовета не ведае гэтага Касцюка! У зале — смех, усе шукаюць вачамі гэтага «героя», агледаюцца, устаюць. А Касцюк нізка апусціў галаву, каб не сустрэцца з чыім-небудзь позіркам. Страшэнна сорамна, калі цябе прабіраюць пры ўсім народзе, ды яшчэ «з музыкай»! Але і гэта поўбяды. Уся-ж бяда ў тым, што артысты паедуць, а прыпеўка трапіць на язык вясковым хлапчукам, якія не раз прапяюць яе табе наўздагон...

Вялікім поспехам карыстаецца ў сваім раёне Клецкі самадзейны калектыў. Хацелася-б толькі, каб гэты поспех не ўскружыў галаву ўдзельнікам калектыву і каб яны як найлепш падрыхтаваліся да фестывалю.



— Не ў адным толькі Клецку так весела!.. Адгарніце пяць старонак часопіса, наведайцеся ў Дзятлавічы.



Удзельнікі калектыву мастацкай самадзейнасці Клецкага раённага дома культуры Галіна Юрчук і Надзежда Жук выконваюць прыпеўкі.

Фото А. Дзітлава.



**Актыўная ўдзельніца мастацкай самадзейнасці Дома культуры працоўных рэзерваў гор. Мінска, выхаванка 5 рамесніцкага вучылішча комсамолка Ульяна Каравай на рэпетыцыі.**
Фото С. Чырэшкіна і М. Мінковіча.

# На вішнёвай вуліцы

**Іван НАУМЕНКА**

**Апавяданне**

Мал. Ф. Бараноўскага



Нашы зноў адступалі. Прыколаты булаўкамі тонкі чорны шнурок, які адзначаў лінію фронта на нямецкай карце, зноў перасунуўся ва ўсходнім напрамку. Нашы здалі ўжо і Растоў і Варонеж...

Карту немцы павесілі на сцяне клуба яшчэ ў сярэдзіне зімы. Яны, мабыць, спадзяваліся, што лінія фронта болей не кранецца з месца, пасля ўсяго таго, што называлася ў іх зводках выроўніваннем пад Масквой. Гэтае выроўніванне болей за ўсё на свеце захапляла Сяргея і яго сяброў. Сяргей тады не раз спыняўся перад нямецкай картай, аддаючыся глыбокім стратэгічным разважанням. Калі-б гэтыя разважанні як-небудзь дайшлі да вуха Гітлера або яго намесніка ў Бацькавічах каменданта Шпека, то Сяргею і яго сябрам прыйшлося-б не соладка. Але ні Шпек, ні тым болей Гітлер не ведалі пра існаванне баявой і рашучай у сваіх планах групы ў вялікім раённым сяле Бацькавічы. Удары гэтай групы па нямецкай ваеннай машыне яшчэ толькі намячаліся, яны цесна звязваліся з наступленнем нашых, якое да вясны, па ўсіх разліках, павінна было дакаціцца і да Бацькавіч.

Стратэгічным планам Сяргея і яго сяброў не суджана было збыцца. Чорны шнурок нерухома застыў далёка ад Бацькавіч, якія нават не значыліся на нямецкай карце. Гэты шнурок вужакай абвіўся вакол Ленінграда, і быў прыколаты не так ужо далёка ад Масквы.

Аднойчы шнурок сарваўся з булавак і павіс на верхнім сваім, прымацаваным кнопкай, канцы. У гэтым становішчы шнурка Бацькавічы апынуліся па той самы бок лініі фронта, што і Масква. Сяргей тады цэлы дзень жартаваў і пацяшаўся над немцамі, якія ў сябе пад носам не заўважылі новага скарачэння фронта.

Але цудаў на свеце не бывае. Хоць шнурок і вісеў па другі бок Бацькавічаў, але па сяле расхаджвалі жывыя фашысты. Яны высока трымалі свае галовы ў шапках з арламі і ва ўсю моц грукалі каванымі ботамі па дашчатым тратуары. Фашысты па ўсіх прыкметах не збіраліся ўцякаць з Бацькавіч.

Неяк перад вясной Сяргей пачуў нямецкую песеньку, словы якой яму няцяжка было разабраць, хоць яго веды ў школе па нямецкай мове былі не надта ўжо грунтоўнымі. Вясёлы немец-салдат іграў на губным гармоніку і, падміргваючы дзяўчатам, што сабраліся ў клубе, спяваў:

Алес гэйт фарюбэр, алес гэйт форбай,
Вір лаўфэн ім дэцэмбар, ды русэн ім май... *

Сяргею падабалася, што салдат у сваёй песеньцы глядзіць на скарачэнне фронта пад Масквой трохі прасцей, чым тыя генералы, што складаюць зводкі. Ён-такі прызнае, што немцы далі добрага драла з-пад Масквы. А наконт таго, што да немцаў вернецца поспех у маі, то бабка, як кажуць, на-двое гадала...

Прыйшла вясна, а за ёй і лета. Свяціла сонца, але ніякай радасці на свеце не было. Цёплыя, ясныя дні нібы пацвярджалі словы песенькі, што спяваў нямецкі салдат. Нашы зноў адступалі...

Летась, калі не было яшчэ ні карты з чорным шнурком, ні немцаў у Бацькавічах, Сяргей зусім па-другому глядзеў на свет. Якраз у гэтую вясну ён павінен быў канчаць дзесяцігодку і жыццё, здавалася, раскрывала перад ім свае прывабныя далі. Яно вельмі шмат чаго абяцала на парозе семнаццатай вясны. Патаемна Сяргей не раз ужо думаў пра той момант, перанесены ў прывабную далеч будучыні, калі злезе ён з поезда ў сваіх Бацькавічах, прывёзшы ў роднае сяло справаздачу аб сваіх перамогах у вялікім свеце. На яго будуць з павагай пазіраць аднавяскоўцы, будуць вітацца з ім за руку. А вечарам яго сустрэне яна, без каторай гэтыя поспехі стануць беднымі і нецікавымі. Ёй першай ён зробіць самую шчырую справаздачу аб сваіх перамогах і сваіх планах.

Дзяўчына ўвайшла ў сяргеева жыццё мінулай вясной, якая так шмат чаго абяцала. Звалі яе Жэняй, і вучылася яна на адзін клас ніжэй за Сяргея. У Жэні былі вясёлыя сінія вочы, светлыя косы і гнуткая, павабная постаць. Болей нічога пра Жэню Сяргей сказаць не мог, ды болей нічога не варта было і гаварыць.

У школе Сяргей рэдагаваў насценную газету. Аднойчы яму падалі заметку, у якой паведамлялася аб тым, што Жэня прапускае ўрокі фізкультуры. Ён, як рэдактар, прыкідваў ужо, якую пад заметкай намаляваць карыкатуру. Калі рыхтавалі выпуск насценгазеты, да Сяргея падыйшла Жэня. Яна аднекуль даведалася пра заметку і ціхім, вінаватым голасам папрасіла яе не змяшчаць. Сяргей чамусьці разгубіўся і паабяцаў праверыць факты. Фактаў ён не правяраў, бо назаўтра атрымаў ад Жэні запіску. Яна дзякавала яму за тое, што заметка не паявілася ў насценгазеце, і прасіла даць ёй пачытаць якую-небудзь цікавую кнігу. Кнігу Сяргей дзяўчыне прынёс, і ў ёй ляжала ўжо яго запіска. Так ён упершыню здрадзіў свайму радактарскаму абавязку.

Сябрам сваім Сяргей не сказаў пра Жэню ні слова... А пасля гэтага было многа запісак. Некаторыя былі нават напісаны чырвоным чарнілам. Спатканне-ж было толькі адно, і можа таму яно запомнілася да самых малюткіх дробязей. Вечарам таго дня, калі здавалі апошні экзамен, Сяргей асмеліўся адбіцца ад талакі хлопцаў, якія шпацыравалі па дашчаным тратуары, і прыблізіўся да дзяўчат, сярод якіх была і Жэня. Хітрыя ад прыроды дзяўчаты, у адрозненне ад сяргеевых сяброў, адразу скемілі, чаго хоча Сяргей. Для прыліку яны шчабаталі аб кнігах і экзаменах і непрыкметна падвялі хлопца да вуліцы, дзе не было ліхтароў, але затое было вельмі шмат лавачак пад белымі ад квецені вішнямі.

Сяргей застаўся са сваёй дзяўчынай адзін на адзін. Гэта быў той момант, да якога хлопец у думках даўно рыхтаваўся, і, мабыць, як гэта часцей за ўсё здараецца ў жыцці, аказаўся зусім не падрыхтаваным. Сяргей абмяняўся з дзяўчынай думкамі наконт надвор'я, і на гэтым пункце размова мусіла прыпыніцца. У роце ў Сяргея перасохла, голас зрываўся, сэрца тахкала так моцна, нібы хлопец толькі што адолеў высокую гару. На сённяшнім апошнім экзамене Сяргей хваляваўся ў сто раз меней, чым тут, на лавачцы пад вішнямі, дзе не было ніякіх экзамінатараў.

Выручыла радыё. А палове дванаццатай сталі перадаваць апошнія паведамленні, і голас дыктара выразна далятаў уначы да вішнёвай вуліцы. Па радыё перадавалі нямецкае абвяржэнне, у якім катэгарычна сцвярджалася, што на савецкай граніцы не групуюцца ніякія германскія войскі.

Гэтае паведамленне было паратункам для Сяргея. Ён пачаў развіваць свае погляды наконт міжнароднага становішча, даводзіць дзяўчыне, што нашай моцы немцы баяцца і ніколі не адважацца напасці на нас. Жэня, мабыць, не чытала штотыднёвых ваенных аглядаў у часопісе «Огонёк» і таму маўкліва слухала. Высокія пытанні міжнароднай палітыкі занялі тады большую палавіну гэтай незабыўнай майскай ночы.

Але ў каханні важна якраз не тое, пра што гаворыцца,—куды важней другое: як гэта ўсё гаворыцца. Дзяўчына, мабыць, адчула ў сяргеевым голасе не толькі глыбокае пераконанне чалавека, які разбіраецца ў палітыцы, але і нешта другое, болей важнае для яе, бо даверліва прытулілася да хлопца.

Гэты трапяткі, даверлівы дотык пляча дзяўчыны прымусіў Сяргея перайсці з пытанняў міжнародных адносін да пытання, якое болей за ўсё хвалявала і яго самога—іх адносін з Жэняй.

* Усё праходзіць міма, усё праходзіць міма. Мы ўцякаем у снежні, а рускія ў маі...

Сяргей прызнаўся ў той вечар у каханні, хоць пра яго пачуццё дзяўчына, напэўна, ведала і раней. Яна ўспрыняла яго словы з прыкметнай радасцю, але сама маўчала. Тады Сяргей патрабаваў адказу і ў яе. Яна таксама мусіла прызнацца...

Ужо світала, калі Сяргей адважыўся пацалаваць Жэню.

Тыдняў праз тры пасля гэтага спаткання пачалася вайна. З таго вечара, праведзенага з Жэняй на вішнёвай вуліцы, Сяргей болей не бачыў сваёй дзяўчыны. Яна жыла ў другой вёсцы, дзе не было дзесяцігодкі, і пайшла дамоў у тую-ж раніцу, якую яны сустрэлі разам.

У пачатку вайны Сяргей быў цвёрда пераконаны, што нашы самае большае праз тры месяцы скруцяць фашыстам рогі. Выйшла інакш. На другім месяцы вайна падкацілася да Бацькавіч, і Сяргей разам са сваімі сябрамі наважыў рушыць у эвакуацыю. Яны-такі і рушылі, мужна перанёсшы слёзы і нязгоду сваіх матак. Па сяргеевых звестках, Жэня, дачка агранома, таксама падалася ў глыбінныя раёны.

Але адыйсці далёка ад родных Бацькавіч Сяргей са сваімі сябрамі не паспеў. Калі хлопцы з поўнымі сухароў і кніг торбамі падыйшлі да Дняпра, недзе за ракою ўжо самкнуліся нямецкія танкавыя кліны. Пераправа праз Дняпро была разбурана, а «юнкерсы» і «месершміты» бамбілі ўжо далёка наперадзе.

У ляску прыдняпроўскай вёсачкі хлопцы знішчылі дакументы, якія, на іх думку, маглі выдаць фашыстам ваенную і дзяржаўную тайны. Былі спалены пасведчанні на значкі ПВХО, ГТО, ЮВС, ГСО, білеты Мопра і Саюза ваяўнічых бязбожнікаў. Толькі камсамольскія білеты хлопцы панеслі з сабой назад у Бацькавічы, схаваўшы іх пад узадраныя сцелькі чаравікаў.

Сяргей успамінаў Жэню. Гэты ўспамін заўсёды нёс з сабою лёгкі смутак па той незабыўнай сустрэчы на вішнёвай вуліцы.

Перад вясной ужо Сяргей даведаўся, што Жэня ні ў які тыл выехаць не змагла. Яна жыла, выходзіць, увесь час побач з ім, за якіх-небудзь дванаццаць кіламетраў. Калі Сяргей думаў пра вайну, пра свой удзел у змаганні, у яго вачах нязменна паўставаў вобраз Жэні. Ён бачыў сваю дзяўчыну ў ролі санітаркі, якая перавязвае яго, параненага і скрываўленага, маляваў сябе ў якасці партызанскага разведчыка, які прыходзіць у жэніну вёску, а яна, патаемна ад сваіх родных і блізкіх, перадае яму патрэбныя звесткі. Сяргей адчуваў, што ў яго нібы вырастаюць крыллі, што ён дужы, смелы і вынаходлівы...

У гэтыя дні да Сяргея прыйшла рашучасць. Немцы к лету адрамантавалі чыгунку, і цяпер па нашых-жа рэйках ляцелі ва ўсход нямецкія вайсковыя эшалоны. Глядзець на гэта было балюча і крыўдна. У Бацькавічах на адкрытыя платформы грузілі калёсы, якія вырабляліся з нашага-ж дрэва ў былой леспрамгасаўскай майстэрні. Гэтая майстэрня стаяла на самым водшыбе сяла, і ахоўваў яе ўсяго адзін паліцэйскі.

Аднойчы ў ціхі майскі вечар Сяргей цвёрда заявіў сябрам, што не мае намеру сядзець склаўшы рукі. Ён заклікаў хлопцаў уключыцца ў вайну з фашызмам неадкладна, з тым разлікам, каб сеяць сярод фашыстаў паніку, зрываць іх вайсковыя падрыхтаванні. Сябры згадзіліся, што настаў час дзейнічаць.

Тады і спалілі майстэрню, дзе выраблялiся калёсы для немцаў. У тую ноч, калі палілі майстэрню, Сяргей паверыў самому сабе, што ён умее не баяцца. Гэта было вельмі важнае пачуццё—не баяцца смерці.

Услед за радасцю першай перамогі прыйшло і засмучэнне. У Бацькавічы час-ад-часу прыходзілі звесткі пра скінутыя пад адхон нямецкія эшалоны пад Пціччу, Рэчыцай, Гомелем, пра разгромленыя нямецкія атрады. У Бацькавічах пасля спаленай майстэрні не было болей ніякай вайны супраць фашызма. Камендант Шпек па гэтай прычыне, мабыць, радаваўся. Яму, можа, сам Гітлер аб'явіў падзяку за гэты парадак і спакой. Усе тыя дні Сяргей хадзіў сумны і прыгнечаны. У групе была толькі адна вінтоўка, адзін абрэз і чатырнаццаць патронаў. З такой зброяй не наваюеш. Сувязь з партызанамі, якая наладзілася ўпачатку вясны, зноў парвалася.

У гэты час якраз і наважыў Сяргей схадзіць у жэніну вёску. Мінулым летам каля яе праходзіла наша абарона, і ў акопах мусіла застацца якая-небудзь зброя.

Сяргей цэлы дзень вандраваў па лесе і толькі пад вечар знайшоў дзве лімонкі. Гэта была добрая знаходка, і дзеля яе варта было яшчэ раз прыйсці ў гэты лес, дзе, можа, калі-небудзь хадзіла і Жэня. А вечарам, схаваўшы ў лесе гранаты, Сяргей прыйшоў у жэніну вёску. Ён распытаў, дзе знаходзіцца яе дом, і сеў на лавачку каля веснічак. Хлопец чамусьці верыў, што Жэня павінна адчуць, хто яе чакае, і выйсці да яго. Ён чакаў можа цэлую гадзіну і дачакаўся сваёй дзяўчыны. На зямлю ўжо спусціўся ціхі летні вечар, калі, нячутна адчыніўшы веснічкі, на вуліцу выйшла Жэня. Хлопец яе адразу пазнаў і паклікаў да сябе.

— Сяргей!—працяжна прамовіла Жэня.— Як ты да нас трапіў?

Хлопец не ведаў, што адказаць. Ён толькі глядзеў на яе твар, на яе стройную постаць, слухаў яе пяшчотны, пералівісты голас.

Яны селі на лавачку. Над лавачкай, як і там, у Бацькавічах, была вішнёвая навісь, з неба пазіралі на зямлю тысячы зорак, недзе, аж пад самым лесам, званілі начэпленымі на шыі званкамі коні. Сяргей нешта расказваў, і яму было добра і лёгка на душы. На другім канцы вуліцы раптам зайграў гармонік, і дзяўчына ўстрапянулася, нібы спалоханая птушка.

— У нас вечарынка сёння,Сяргей,—паведаміла яна.—Сумна ў нас, паліцэйскім самагонку носім, каб дазволілі патанцаваць...

— Я цябе нікуды не пушчу, Жэня,—хлопец лёгка прытуліў дзяўчыну да сябе.

Яна не супраціўлялася і, абняўшыся, яны прасядзелі, можа, большую палавіну гэтай ночы. Побач была Жэня, і Сяргею цяпер усё ўяўлялася лёгкім, ясным і нястрашным. У палове ночы ў небе пачулася ледзь улоўнае роўнае гудзенне самалёта. Самалёт ішоў, здаецца, пад самымі зоркамі, яго агнёў не было відаць.

— Наш самалёт,—сказаў Сяргей з радасцю ў голасе.—У нямецкіх зусім другі гул матора...

— Мяне дома чакаюць, Сяргей,—падхапілася Жэня.—А дзе-ж ты будзеш начаваць?

— У вас на сене,—сказаў Сяргей.—Ты мне чым-небудзь накрыцца вынесеш...

Яна вынесла яму кубак малака, і ён спаў, накрыўшыся жэніным старым паліто...

Жэня пасля гэтага спаткання стала яшчэ больш блізкай і роднай. У сяргеевай душы было такое адчуванне, што ён ведае яе даўно-даўно. Яна сказала, што прыдзе ў Бацькавічы, і Сяргей чакаў гэтай сустрэчы.

Справы групы пайшлі лепш. Сяргей пасля спаткання з Жэняй хадзіў на сувязь з партызанамі, гэтая сувязь цяпер стала больш трывалай... А на фронце нашы адступалі. Баі цяпер ішлі недзе аж за Донам. Нямецкім зводкам верыць не хацелася, і сяргеевы сябры падаліся аж у суседні раён, дзе надзейны чалавек меўся дастаць лямпы для радыёпрыёмніка. Сяргей застаўся адзін. Яму было трывожна і маркотна.

У той дзень, калі прыйшла Жэня, на бацькавіцкіх парканах паявіліся афішы, у якіх паведамлялася, што ў мясцовым клубе выступяць артысты. Артысты мусілі прыехаць з горада, каб за нямецкія грошы рабіць прадстаўленне, і таму Сяргей ужо загадзя думаў пра іх няважліва. Ён наважыў у клуб не ісці. Нічога добрага там не магло быць, паколькі гэтае прадстаўленне дазволілі немцы.

Сяргей сустрэў сваю дзяўчыну гэтак-жа, як летась — на тым-жа дашчаным тратуары, у такім-жа, як і тады, акружэнні дзяўчат. Яна адыйшлася ўбок і прапанавала Сяргею схадзіць на вішнёвую вуліцу. Яна сказала «на нашую вуліцу», і хлопец адчуў, як нейкая вялікая, гарачая хваля напоўніла ўсю яго душу, паглынула ўсе іншыя жаданні, апрача жадання быць побач з ёй, глядзець ёй у твар, адчуваць дотык яе лёгкай рукі. Ён хацеў бачыць сваю дзяўчыну толькі такой, як у тыя папярэднія два спатканні. І вось яна ідзе побач з ім—ціхая, задуменная, блізкая. Яна стала яшчэ прыгажэйшай, яго дзяўчына...

Яны селі на тую лавачку, і Сяргей забыў пра ўсё на свеце. Не было цяпер ні вайны, ні немцаў у Бацькавічах, ні спаленай майстэрні, ні сяброў, якія недзе вандравалі. Была адна толькі Жэня, якая даверліва прытулілася да сяргеевага пляча, якая таксама ніколі не забывала яго. Вішнёвая вуліца жыла сваімі прывабнымі вячэрнімі шорахамі, і гэтыя шорахі гучалі, як неразгаданая цудоўная музыка жыцця.

Раптам крокаў за поўсотню ад лавачкі бліснулі агеньчыкі кішэнных ліхтарыкаў, і Сяргей зразумеў—ідзе нямецкі патруль. У тую-ж хвіліну дзяўчына схапіла яго за руку і амаль сілком пацягнула ў чужы, незнаёмы двор. Затаіўшыся за вішнямі, яны чакалі, пакуль пройдзе патруль.

— Прысядзь,—шэптам сказала Жэня.—А то ўбачаць...

Патруль слізгануў ліхтарыкам па вішнях і пайшоў далей.



— Давай будзем сядзець на прызбе,—прапанавала Жэня. — У двары немцы не ўбачаць. Абрыдзела гэтая вайна. Хутчэй-бы які-небудзь канец.

Сяргей адчуў, як моцна ўкалолі яго гэтыя простыя і даверліва сказаныя словы. А Жэня скардзілася на тое, што немцы нічога не прывозяць, што нельга нават дастаць грабянца, што на нямецкія маркі нічога не купіш...

Сяргей слухаў і, здаецца, не даходзіў да сэнсу ўсяго таго, пра што расказвала дзяўчына. На душы ў яго была нейкая прыкрасць. А Жэня сядзела, блізка прытуліўшыся да хлопца. Яна жадала свайго маленькага шчасця, няхай украдзенага на гэтай прызбе ў пільнага нямецкага патруля. Яна не спытала, як там на фронце. Для яе, мабыць, ён, Сяргей, аднолькавы—спалілі-б ці не спалілі яны з хлопцамі тую нямецкую майстэрню. Можа-б яна сёння сюды і не прыйшла, каб ведала, што ён робіць такія рэчы.

Прывабнасць ночы некуды знікла, хоць побач з Сяргеем і сядзела Жэня. Ён адчуваў сябе дужэйшым, і ад гэтага яму было проста шкада дзяўчыны.

Сяргей павёў гаворку пра фронт, пра тое, што нашы абавязкова вернуцца. Ён не ўтрымаўся і намякнуў, што хутка і ў Бацькавічах немцам стане не соладка. Жэня не перабіла яго ніводным словам. Толькі мінулагодняя гаворка пачалася з палітыкі і закончылася словамі пра каханне, а цяпер усё атрымлівалася якраз наадварот...

Ужо зусім развіднела, і цяпер можна было, не зважаючы на нямецкі патруль, шыбаваць дадому. Сяргей правёў дзяўчыну да яе леташняй кватэры.

— Ты-ж прыдзеш заўтра ў клуб?—нясмела спытала Жэня.—Да вас артысты прыязджаюць, а ў нас сумна — адны вячоркі...

Прыйсці ў клуб Сяргей паабяцаў...

Назаўтра па ўсіх Бацькавічах разнеслася сумная вестка. На золаку нашы скінулі парашутны дэсант каля вёскі Глушаўкі. Нейкі сквалыга, які вадзіў каня на начлег, пакваліўся на дабро дэсантнікаў. Ён зацягнуў у свой двор скінуты з самалёта мяшок з харчовым прыпасам. З-за гэтага мяшка і загарэўся сыр-бор. Мясцовы паліцэйскі заўважыў у зубах таго торбахвата савецкую папяросу і, прыціснуўшы яго, дазнаўся пра месца, дзе знаходзяцца дэсантнікі. Праз якую-небудзь гадзіну лагер дэсантнікаў быў акружаны. Траіх дэсантнікаў фашысты забілі, а траіх узялі ў палон. Іх павінны былі вось-вось прывезці ў Бацькавічы...

Гэтая вестка балюча ўразіла Сяргея. Яму здавалася, што сам ён кругом вінават. У тую ноч, калі людзі садзіліся на самалёт можа ў самой Маскве, каб ляцець у незнаёмы ім край, ён, тутэйшы жыхар, цэлую ноч балбатаў з дзяўчынай пра нямаведама што.

З поўдня Сяргей блукаў ля камендатуры — сюды павінны былі прывезці дэсантнікаў. І ён убачыў іх—двух рослых хлопцаў і дзяўчыну. У аднаго хлопца была перабіта рука, яна трымалася на марлевай прывязі, перакінутай праз шыю. Усе трое крочылі з горда ўзнятымі галовамі. Каб не было канвою, то можна-б было падумаць, што гэтыя трое проста выйшлі на шпацыр. Дык вось якія яны — людзі, што можа яшчэ ўчора хадзілі па вуліцах Масквы. Як блізка Масква, калі ляцець з яе на самалёце, і як далёка яна, каб прайсці праз палі, лясы і рэкі, што аддзяляюць сталіцу ад Бацькавіч, і вызваліць вось гэтых вязняў...

Захопленых дэсантнікаў замкнулі ў школе. Сяргей ведаў—памяшканне іхняга дзевятага класа немцы пераабсталявалі пад турму. На вокнах там цяпер краты, а за гэтымі кратамі трое тых, што скінуліся з неба на бацькавіцкую зямлю. З пустой душой пайшоў Сяргей у клуб. У яго сэрцы акрамя безвыходнага, як цяжкі камень, суму не было болей ніякіх жаданняў. Сябры яшчэ не прыйшлі — не было з кім параіцца. Пра Жэню Сяргей амаль не думаў—з учарашняй ночы яна стала нейкай звычайнай, маленькай, якую хацелася толькі пагладзіць па галаве.

Ён прывітаўся з дзяўчынай і расказаў ёй пра захопленых дэсантнікаў. Твар у Жэні спахмурнеў, але яна нічога не адказала. Паднялі заслону, і на сцэну выскачыў нейкі размаляваны клоун. Немцы, якія сядзелі на першых лаўках, запляскалі ў далоні. Клоун падскокваў на сцэне, вырабляў розныя мартаплясы—на яго было агідна глядзець. Сяргей збоку зірнуў на Жэню—на яе вуснах свяцілася ўсмешка, а вочы ззялі задавальненнем і цікавасцю. Хлопец крануў дзяўчыну за руку, даючы знак, што збіраецца выйсці.

— Куды ты? — спалохана спытала Жэня. Яна пазірала на Сяргея з замяшаннем і трывогай.

— Не хачу я сядзець тут,—ціха прамовіў Сяргей і, прыгнуўшыся, падаўся да выхаду.

Думка прыйшла ўжо на вуліцы — ясная і халодная, як лязо сякеры. Недалёка ад клуба, па другі бок вуліцы, стаяла каменная будка, дзе грукатаў рухавічок, прыстасаваны для электраасвятлення нямецкіх будынкаў. Сяргей успомніў пра дзве гранаты, захаванне якіх было на яго адказнасці. Кінуць адну з іх у акно каменнай будкі, каб пашкодзіць рухавічок, было зусім лёгка...

Сяргей не помніў, як бег да гумна на водшыбе Бацькавіч, дзе ў падстрэшшы былі схаваны лімонкі, як вяртаўся назад, да будкі. Ён баяўся толькі спазніцца. Каля будкі хлопец дзейнічаў размерана і ўпэўнена. Ён выбраў момант, калі з будкі выйшаў механік, і, прыўзняўшыся, шпурнуў у акно гранату... Грымнуў выбух, а ўслед за гэтым ва ўсіх нямецкіх будынках патухла святло. Яно патухла ў тым школьным пакоі, дзе сядзелі злоўленыя дэсантнікі, і ў клубе, дзе скакаў на сцэне размаляваны клоун. Сяргей, прыгнуўшыся, бег ваколіцай—яму ўжо нічога не пагражала. Ён думаў пра трох палонных дэсантнікаў, якім у гэтую хвіліну, мабыць, стала весялей на сэрцы. Яшчэ мільгнула думка пра тое, што яго ўчынак адобраць сябры, бо ўсё-такі спакойнага сну ў фашыстаў гэтай ноччу не будзе...





# ЛЯ МІКРАФОНА СТУДЭНТЫ

Эрнст **КАЛЯДЭНКА**,
студэнт IV курса аддзялення журналістыкі БДУ імя В. І. Леніна.

**Аднаму мне неяк няёмка, паважаныя чытачы, гаварыць аб падрыхтоўцы нашага самадзейнага канферансу да фестывалю. Больш зручна было-б зрабіць гэта Генадзію Кузьмічэнку і Нікалаю Бандарэнку — выканаўцам станоўчых роляў у нашым «трыё». Я, звычайна, выступаю ў ролі бюракрата, гультая, падхаліма альбо адукаванага дурня. Гэта з аднаго боку.**

**З другога боку, маім сябрам не пашанцавала трапіць пад аб'ектыў фотаапарата, а таму і на старонкі «Маладосці». А гэтага яны мне ніколі не даруюць. хоць я тут ні крапелькі не вінаваты, бо калі фотакарэспандэнт прыйшоў ва ўніверсітэт, маіх сяброў не было ў Мінску. Такім чынам, прыходзіцца мне аднаму за ўсіх траіх адказваць.**

**Упершыню мы сустрэліся на клубнай сцэне, калі ўсе трое перайшлі на другі курс аддзялення журналістыкі БДУ імя Леніна. Спачатку наш рэпертуар складаўся з інтэрмедый і музычных пародый, якія зрэдку трапляюцца ў рэпертуарных зборніках. Аднак гэтыя рэдкасці, звычайна, ужо не былі новымі для гледачоў і не заўсёды адпавядалі асаблівасцям нашага студэнцкага побыту. Таму мы пачалі «падганяць» гатовыя жарты, сатырычныя песні і танцы пад факты нашага жыцця і хутка пераканаліся, што смешна было рабіць такія намаганні, бо інтэрмедыі ад такой «апрацоўкі» яшчэ больш засушваліся.**

**Тады мы вырашылі самі пісаць пародыі і інтэрмедыі. І наш старшыня праўлення клуба Г. Герасіменка сказаў: «Добра!»**

**Неўзабаве ўзнікла рэдакцыйная калегія сатырычных аглядаў «Жарты прэч», у якую ўвайшлі ўсе паэты ўніверсітэта і нават адзін прафесар.**

**Цяпер мы рыхтуемся да ўніверсітэцкага і раённага фестываляў моладзі. Наш рэпертуар значна вырас, і мы аб'ядналі яго ў сатырычны канцэрт-агляд. У гэтым канцэрце прымаюць удзел лепшыя выканаўцы драматычнага, танцавальнага і іншых гурткоў мастацкай самадзейнасці. Адным з галоўных герояў нашага агляду будзе шэранькі козлік. Той самы козлік, якога бабулька легкадумна пусціла ў лес пагуляць і ад якога засталіся толькі рожкі ды ножкі. Як трапіў козлік у сатырычны агляд, якое ён мае дачыненне да навукі, альбо навука да гэтага даўно і трагічна загінуўшага казляняці, — гледачы даведаюцца ў самым хуткім часе.**

**Сакавік будзе для нас і ўсіх удзельнікаў сатырычнага агляду месяцам творчага экзамена — мы будзем выступаць перад студэнтамі ўніверсітэта і іншых ВНУ горада. Безумоўна, вельмі хвалюемся, бо хочацца выступіць як мага лепей. Акрамя сказанага, як выканаўца адмоўных роляў, магу дадаць: хочацца як-небудзь трапіць на Усебеларускі фестываль, а пасля, ненарокам, і на Усесаюзны.**

# Анкета „Маладосці"

**І. УРБАНОВІЧ,**
дырэктар «Мінгорхарчгандлю».

Гандлёвыя работнікі рыхтуюцца культурна і ветліва сустрэць нашых маладых гасцей у Мінску ў дні Усебеларускага фестывалю.

Самым ажыўленым месцам у святочныя дні, напэўна, будзе стадыён «Дынамо». Туды выедуць 20 буфетаў, 9 аўталавак, 40 цялежак, 10 цыстэрнаў з мінеральнымі і фруктовымі напіткамі, квасам. У латках будзе вялікі выбар марожанага, бутэрбродаў, піражкоў, булачнай здобы...

Для абслугоўвання фестывалю будуць вылучаны лепшыя прадаўцы з ліку моладзі.





Хрысціна і Ядзя **ПАПЛАЎСКІЯ**,
вучні Мінскай музычнай школы.

— Мы спяваем у школьным хоры. Наш хор абавязкова будзе ўдзельнічаць у канцэртах на фестывалі. Хочам узяць туды і нашу лялькў, якая, вядома, маўчыць, але спяваць нам з ёю весялей.



Марына **ПЯТРОВА**, Анатолій **МІЛАШОЎ**,
Аляксандр **КАЛЯДЭНКА**,
салісты балету.

Салісты балету на сцэне маўчаць. Іх мова танец. Вось мы і дамагаемся таго, каб нашы фестывальныя танцы былі дасканалымі, выразнымі і прыгожымі. Да аднаго з пастаўленых нумароў музыку піша кампазітар Камінскі. Гэта будзе захапляючы танец. А нарэшце, самі ўбачыце. Кожнаму з нас па дваццаць два гады. Усе мы нядаўна кончылі харэаграфічнае вучылішча. Творчыя біяграфіі нашы, як бачыце, толькі пачынаюцца.

Віктар **ДУБРОЎСКІ**,
галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра Белдзяржфілармоніі.

З нецярплівасцю чакаю, калі пачнецца Фестываль дэмакратычнай моладзі ў Маскве. Спадзяюся ўдзельнічаць у гэтым фестывалі ў якасці дырыжора маладзёжных сімфанічных аркестраў. Для гэтага рыхтую вялікую і цікавую праграму з твораў сусветнай музычнай класікі. У Маскве мне давядзецца сустрэць сваіх старых сяброў, з якімі пазнаёміўся на IV Сусветным фестывалі дэмакратычнай моладзі ў Бухарэсце. Аб нашых цёплых сяброўскіх сустрэчах і размовах на цікавыя тэмы ў мяне захаваліся самыя прыемныя ўспаміны. Як жывы сведка гэтага, лішні раз магу сказаць, што сустрэчы моладзі на фестывалях надзвычай садзейнічаюць наладжванню лепшага ўзаемаразумення і моцнай дружбы паміж маладымі людзьмі ўсяго свету. У гэтым вялікае значэнне маладзёжных фестываляў.





Эня **СКАЛАБАН**,
мастак-мадэльер Мінскага дома мадэляў.

У зручным, прыгожым адзенні чалавек заўсёды адчувае сябе па-святочнаму.

Такі святочны настрой мы пастараемся ствараць усімі відамі адзення, якое наш Дом мадэляў рыхтуе да фестывалю.

Я абавязкова буду ўдзельнічаць у конкурсе на лепшае фестывальнае адзенне.



**П. МІМРЫК**,
трэнер футбольнай каманды «Ураджай».

Сёлета наша рэспубліка на ўсесаюзных спаборніцтвах па футболу будзе прадстаўлена двума камандамі. У класе «А» выступае мінскі «Спартак». Па класу «Б» будзе аспрэчваць каманднае першынство краіны новая мінская каманда «Ураджай».

Каманда сфарміравана з беларускіх футбалістаў. За «Ураджай» будуць іграць майстар спорту Бачурын, былы нападаючы мінскага «Дынамо» Перҗхала, нападаючы Сідараў і іншыя.

Большасць футбалістаў — моладзь, выхаванцы футбольнай школы. Гэта варатары Гуляеў і Есікаў, нападаючыя Блашэвіч, Караткевіч, поўабаронца Праслаў, абаронцы Хаткевіч, Свірыд, Гарай, Уханаў, Дзенісенка, Шаліна і Радзюк. Цяпер ідуць трэніроўкі. 7 красавіка «Ураджай» сустрэнецца ў Станіславе на першынство краіны з мясцовым «Спартаком». Ёсць усе падставы спадзявацца, што новы калектыў будзе добра адстойваць спартыўны гонар рэспублікі.



**В. ПАКРОЎСКІ**,
старшы лейтэнант медыцынскай службы.

З васьмі год захапляюся я рыбнай лоўляй. У Яраслаўлі, на Волзе, дзе прайшло маё маленства, злавіў я першага печкура. З таго часу няроўнадушны да гэтага занятку.

Лаўлю рыбу цяпер я толькі спінінгам. Павінен сказаць, што рыбная лоўля ніколькі не перашкаджае маёй прафесіі ўрача.

Да дня фестывалю мы правядзем спаборніцтвы спінінгістаў. Спадзяюся заняць не апошняе месца.

Станіслава **ГУЛЕВІЧ**,
салістка Беларускага тэатра оперы і балету.

Шэсць гадоў назад я працавала ў калгасе на Гомельшчыне. А вось цяпер пасля заканчэння кансерваторыі спяваю ў тэатры оперы і балету. Мне вельмі блізкія народныя песні. Іх я пела яшчэ дзяўчынкай. Вось з гэтымі песнямі мне і хочацца выступіць на фестывалі.

Я вельмі люблю песні «На двары дожджык», «Чарнушачка». Думаю, што яны спадабаюцца і ўсім. Рыхтую таксама арыю Далілы з оперы «Самсон і Даліла» і арыю Марфы з оперы «Хаваншчына».

Вельмі хочацца пабыць у Маскве, праспяваць там тыя песні, якія спяваюць у маёй роднай вёсцы Рудні Стаўбунскай.





— Столькі мальбертаў! І ніводнай карціны да фестывалю! А дзе-ж мастакі? Напэўна, зноў на рыбалку махнулі...

# Анкета „Маладосці“

**Ул. НЯДЗВЕДСКІ,**
паэт.

Мне, як настаўніку, больш за ўсё даводзіцца хадзіць са строгім тварам і часам бывае не да песень. Але-ж спяваць трэба, а то, кажуць, хто не спявае, той хутка састарыцца. Вось я і напісаў песню «Сябры-комсамольцы», тым больш, што сам комсамолец, жонка комсамолка і вучні нашы амаль усе комсамольцы, і каб не ўрокі, дык толькі-б і спявалі песні.

Да фестывалю думаю напісаць яшчэ вершы аб нашых галасістых калгасных дзяўчатах і чубатых хлопцах.



**Эма ШЧАРБАКОВА, Ларыса МАРТЫНАВА, Шура КІСЯЛЁВА, Ніна ШКАТУЛАВА.**

Усе мы, уступаючы ў новы, 1957 год, узялі павышаныя абавязацельствы. Перавыканаць іх, дамагчыся выпуску прадукцыі толькі выдатнай якасці — гэта наш першы падарунак. Па-другое, усе мы — актыўныя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці на віцебскай фабрыцы і рыхтуем сёе-тое...

Вось і зараз мы сабраліся ў інтэрнаце. «Танец швачак», які мы рыхтуем, пакуль яшчэ трымаем у сакрэце. Для фотакарэспандэнта мы яго пратанцавалі. А астатнія, хто захоча яго ўбачыць, няхай прыходзяць на фестываль.





**В. СТАНКЕВІЧ,**
майстар-вышывальшчыца эксперыментальнай мастацкай лабараторыі Белпромсовета.

У нашай лабараторыі распрацоўваецца звыш 20 узораў фестывальных сувеніраў. Да Усебеларускага фестывалю мы рыхтуем новыя ўзоры хусцінак, каўнерыкаў з беларускім арнаментам, абрусаў, падушачак, а таксама рознастайныя ўзоры разьбы па дрэву.

Мінская арцель «Трэцяя пяцігодка» пачынае выпускаць хусцінкі, гальштукі, вышыўкі па новых узорах. Арцель «Кастрычніцкая рэволюцыя» ў Брэсце робіць фестывальныя маскі.

**М. БАРАНАЎ,**
старшы сержант міліцыі.

Напэўна нам, работнікам міліцыі, у час фестывалю ў Мінску будзе турбот больш, чым у іншыя святы. Трэба будзе і дапамагчы гасцям арыентавацца ў горадзе, і не аслабляць службы па ахове парадку...

Ад душы хочацца, каб на гэтай вялікай урачыстасці было ўсім хораша і весела, каб ніхто з моладзі не сапсаваў сабе і сваім таварышам настрою.

Між іншым, сябры, я павінен вам прызнацца: я таксама буду ўдзельнічаць у Мінскім фестывалі. Справа ў тым, што ў хоры пры нашым міліцэйскім клубе я запяваю «Марш совецкай міліцыі».





**Лена КАЗЫНЕНКА,**
парыкмахер.

— На фестывалі ўсе павінны быць прыгожымі, і я зраблю ўсё, што ўмею, каб гэта было так.



**Галіна МАРКІНА,**
артыстка Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Ленінскага комсамола.

У нашым творчым калектыве шмат маладых акцёраў. Таму ўсе мы стараемся як найлепш падрыхтавацца да маладзёжнага фестывалю.

Акрамя спецыяльнай канцэртнай праграмы, наш тэатр рыхтуе яшчэ да гэтай святочнай падзеі спектакль «Фабрычная дзяўчына». Я вельмі рада, што мне, былой выпускніцы Мінскага тэатральнага інстытута, даручылі выконваць у гэтым спектаклі ролю Жэні Шульжэнка.



**Валя МАРОЗАВА, Валя ПРЫДАЧЫНА, Галя ЧОРНАЯ, Валя ПАЛЬВІНСКАЯ, Ліда ЗАГАРУЛЬКА, Марыя АДАМЕЙКА, Ніна ТРАЯН, Аня АЎДЗЕЕНКА.**

Наш актэт таксама рыхтуецца выступіць на фестывальных канцэртах. У праграме нашых выступленняў — «Калгасная веснавая» самадзейнага кампазітара П. Ковача, «Наш Нёман» таксама самадзейнага кампазітара П. Шаўко, беларуская народная песня «Рабінушка» ў апрацоўцы Г. Цітовіча, жартоўная песня «Сярожка» ў апрацоўцы К. Паплаўскага.

Не будзем утойваць свайго жадання — нам хочацца праспяваць свае песні так, каб яны запомніліся ўсім, хто іх паслухае.

**Д. ДУБІНСКІ,**
адказны рэдактар перадач для моладзі Беларускага радыё.

Кожную нядзелю ў 18 гадзін 30 мінут у перадачах «Насустрач фестывалю» перад нашым мікрафонам выступаюць маладыя перадавікі вытворчасці, сельскай гаспадаркі. Яны расказваюць аб сваіх працоўных поспехах, вытворчых падарунках; маладзёжныя калектывы мастацкай самадзейнасці знаёмяць слухачоў са сваімі творчымі дасягненнямі. Майстры мастацтваў рэспублікі, артысты беларускіх тэатраў дапамагаюць моладзі падрыхтавацца да фестывалю.

У дні Усебеларускага фестывалю ў нас будзе створана спецыяльная брыгада радыёжурналістаў і тэхнікаў для найбольш аператыўнага і поўнага асвятлення гэтага свята юнацтва.





**А. Б. ГРЫГАР'ЯНЦ,**
мастак.

Вялікая група мастакоў, скульптараў і архітэктараў працуе над мастацкім афармленнем Мінска да дзён фестывалю. Мы імкнемся як мага ярчэй выказаць гасціннасць, жаданне да міру і дружбы, да тых самых высокіх ідэалаў, якія характэрны для беларускага народа, як і для ўсіх совецкіх народаў.




Шлях адкрыты.

# Гэй ты, Нёман!..

Песня пачыналася ціха. Яе спяваў хор з закрытымі вуснамі. Спеў гучаў, нібы сасновы гоман у бары. Гучаў павольна, працягла. А потым, як і здараецца ў лесе, калі заслухаешся яго музыкай, да слыху данеслася: «Ку-ку!» І яшчэ раз: «Ку-ку!». Адразу нельга было ўлавіць: адкуль гэта?.. Нельга было пазнаць сярод дзяўчат, якія роўнай шарэнгай стаялі наперадзе, тую, што кінула гэты далёкі птушыны вокліч. Дружны хор раптам падхапіў на поўныя грудзі, з раскрытымі вуснамі:

— Ой, не кукуй, зязю-уленька, так ра-ана...

Моцна, шырока... Мужчыны, што стаялі ў трэцім радзе на школьных партах, надта дужа бралі «гэй-гэй»!, а дзяўчаты са сваёй «зязюлькай» срэбнымі галасочкамі высока цягнулі ўгору...

Усе слухачы былі зачараваны. Нікому ні разу не здаралася чуць, каб так па-свойму спявалася гэтая беларуская народная песня. Арыгінальна, асабліва ў пачатку, спявалі яе тут, у Дзяляцічах. Задушэўна і мілагучна. І спявалі яе не прафесійныя спявакі, а вясковыя аматары. Тыя, што цэлы дзень працавалі на калгасным полі.

У школьным класе гарэлі дзве настольныя лямпы. Звонкім галасам памяшканне было цеснае. І агонь у газавых лямпах гэта адчуваў: наліваўся чырванню, уздрыгваў у шкляных камінках.

— Ой, не кажы, што но-очанька так ма-ала...

Нібы летняй ноччу, сапраўды, зязюлька лічыла закаханым «куку!», а ўвесь хор зноў падхопліваў наступны запеў...

Нарэшце, мы прыкмецілі яе. Гэта «кукавала» Ліда Бушма, бібліятэкар калгаса «Сцяг Саветаў». З выгляду «зязюльку» не лёгка было адрозніць ад іншых дзяўчат, яе сябровак. У школьным класе на рэпетыцыю сабралася моладзь, комсамольцы і комсамолкі з усіх брыгад. Некаторыя прыйшлі за шмат кіламетраў, напрыклад Надзя Вілёнда. (Яна жыве за Нёманам і кожны раз на рэпетыцыю і дадому ходзіць пешшу.) Ды ці толькі моладзь? Калі глядзець на ўзрост удзельнікаў, дык галасістая моладзь — ужо трэцяе пакаленне спевакоў-аматараў. Тут, у Дзяляцічах, розныя ўзросты. Ганна Трубка прыходзіць з дачкою. А ў дачкі ўжо таксама дачка і таксама акуратна наведвае рэпетыцыі. Атрымліваецца так, што, сабраўшыся ўвечары, бабулька з унучкай спяваюць песні.

Цікавая гісторыя хору. Гэта адзін з самых старэйшых самадзейных калектываў рэспублікі. Летась 24 чэрвеня ўся грамадскасць раёна адзначала яго трыццацігадовы юбілей. Ёсць у хоры досыць пажылыя людзі. Сцяпан Бесараб, Якаў Сямашкаў, Аляксей Бушма і яго жонка Клаўдзя Фёдараўна, яе сястра Ганна Фёдараўна многае памятаюць і ўспамінаюць з мінулага. Журботныя песні аб горкай сялянскай долі калісьці спявалі яны пад панскай Польшчай. Дзядзькі і цёткі марылі аб лепшым жыцці. Калі-ні-калі ім удавалася патаемна падслухаць радыё, песні з Совецкага Саюза. Такія песні тады называліся ў Дзяляцічах «слуханкамі». У адзін момант іх развучвала ўсё сяло. І вясковыя спевакі распаўсюджвалі не толькі новыя «слуханкі». Некаторыя з харыстаў бывалі на рэволюцыйных сходах, дзе ўжо гнеўна гучалі галасы ў прамовах. Там ужо яны сеялі словы падпольнай барацьбы. Так было да ўз'еднання з Совецкай Беларуссю.

У трыццаць дзевятым годзе хор упершыню перад вялікім зборам людзей ва ўсім сваім саставе выступіў на раённай алімпіядзе ў Любчы, а затым на абласной алімпіядзе ў Баранавічах. Усюды ён заняў першыя месцы. Поспех яго канцэртаў быў такі, што ён меўся ехаць на выступленні ў сталіцу, аднак вайна затрымала не толькі паездку, яна абарвала ўсе планы і далейшую дзейнасць хору.

Што было ў вайну? Вось Іван Іванавіч Бушма. Ён таксама ветэран спеваў у Дзяляцічах. У дні Айчыннай вайны ён партызаніў і ўспамінае так:

—У зямлянцы, бывала, сяджу, прыгадаю наш хор... дык сэрца і халадзее, проста баліць. Такая злосць мяне брала, так мне хацелася помсціць за песні... І адпомсцілі захопнікам.

Іван Бушма адзін час пасля вайны нават спяваў у славутым калектыве Рыгора Шырмы. У яго прыгожы густы бас. Былы плытагон не хоча расставацца са сваёю ракою. Ён вярнуўся дадому. І калі спявае песню аб магутнай рацэ, то на ўсю сілу гучыць з грудзей голас старога плытагона. Яму надта па сэрцы гэтыя словы:

Ой, Нёман, ты бацька наш
Нёман...

Дзяляцічы стаяць над Нёманам. За ракою шуміць Налібоцкая пушча, дзе збіраліся партызанскія дружыны. Адтуль помсцілі яны фашыстам. «Лясная песня» В. Алоўнікава на словы А. Русака любімая ў рэпертуары хору. І выкананне яе сапраўды майстэрскае.

З асаблівым натхненнем спяваюць у хоры пра лён — калгаснае багацце. Удзельніцы хору Люба Клімовіч, Іра Шаройка, Анюта Бесараб — знатныя ільнаводы. 20 чалавек з удзельнікаў хору з'яўляюцца ўдзельнікамі Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Яны атрымалі ўзнагароды.

— Мы працаваць умеем добра і спяваць умеем таксама,— гавораць у Дзяляцічах.

Хор спявае рознастайныя песні: і «Варага», і ўкраінскую «Бандуру», нашу «Зязюльку», і польскую «Зезюлечку».

Шэфам над хорам у Дзяляцічах з'яўляецца заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Генадзі Іванавіч Цітовіч. Гэта ён дапамог адраджэнню хору пасля вайны, доўгі час прыязджаў сюды і цяпер часты госць у сяле.

Мастацкім кіраўніком хору працуе Павел Аляксандравіч Радаліцкі. Вось ён. Перад тым, як распачаць рэпетыцыю, ён, быццам настаўнік у школе, зрабіў пераклічку: хто прысутнічае, хто адсутнічае. Потым яго яшчэ даволі юнацкая постаць у белай вышыванай кашулі выйшла на сярэдзіну класа. Ён паказаўся для ўсіх невялічкім перад гэтым хорам, але калі пасля ўступлення баяна, то да альтоў, то да басоў дырыжор пачаў хадзіць, сnаваць перад радамі, калі ў час рэпетыцыі яго фігура з узнятымі рукамі адступала, набліжалася, дык цень яго ад лямпы вырастаў на пабеленай сцяне аж да столі. А песня грымела. Сваімі рукамі ён, здаецца, усё аддаваў, каб яна гучала найлепш. Павел Радаліцкі, наогул, самааддданы чалавек. Ён не раўня тым, хто выбірае цяплейшае месца і кар'еру. Музыка для яго — усё самае запаветнае, і дзеля гэтага ён ахвяруе асабістым у жыцці. У Гродна ён пакінуў кватэру, пасаду ў музычным вучылішчы, дзе быў педагогам па скрыпцы і дырыжыраванні, і прыехаў у Дзяляцічы. Ён, як трыццацітысячнік на сяле, сярод музыкальнай інтэлігенцыі. Яму вельмі спадабаўся хор, а кватэра і на вёсцы знойдзецца.

Калгас «Сцяг Саветаў» адзін з шаснаццаці калгасаў-мільянераў. Праўленне калгаса выдзеліла каля 10 тысяч рублёў на набыццё інструментаў для аркестра, касцюмаў і абутку для хору.

— Разбагацеем, дык праз гадзік-два адкрыем музычную школу у Дзяляцічах. Няхай дзеці навучаюцца музыцы, — кажуць калгаснікі.

І праўда. У багатых калгаснікаў— багатыя і духоўныя запатрабаванні. А справа ад мары — не за гарамі.

Любоў да песні — невычэрпная крыніца творчых магчымасцей харавога калектыву... Да таго-ж, самадзейнасць была і ёсць прызнакам культуры, прызнакам выхавання людзей у працы. Калі песня пяецца, дык і работа спорыцца. За доўгія гады ў Дзяляцічах склалася свая традыцыя самадзейных спеваў. Яна нават перарасла рамкі самадзейнасці. У чэрвені мінулага года загадам Міністра культуры БССР за творчыя дасягненні, за вялікую работу па культурнаму абслугоўванню калгаснікаў хору прысвоена назва: «Капела калгаса «Сцяг Саветаў».

Цяпер капела рыхтуецца да свята моладзі. Павячэраўшы, калгаснікі збіраюцца на рэпетыцыю.

Гучыць песня пра быстры Нёман, пра жыццё і працу моладзі ў Наднямонні.

**І. ІВАНОВІЧ.**



## Пасля 183 пытанняў парадку дня

— Трэба-ж было фестывальнае пытанне паставіць так далёка. Вось бюракраты! Засядалі — задрамалі... хоць-бы так і фестываль не праспалі!.. Гэй, прачніцеся!..





Момант бою паміж А. Хаценчыкам (справа) і К. Анічкіным.

# На рынгу — Анатоль Хаценчык

Пяць год таму назад, выходзячы з кінотэатра пасля прагляду фільма «Першая пальчатка», хударлявы высокі хлопец вырашыў стаць Нікітай Круцікавым. Усю ноч ён думаў пра героя фільма, а назаўтра пайшоў у спартыўны клуб. Хлопец нясмела зайшоў у залу, дзе праходзіла трэніроўка баксёраў, і, забіўшыся ў куток, назіраў за тым, што тут адбывалася. Нарэшце, адважыўшыся, ён падыйшоў да трэнера Ісака Сямёнавіча Рубіна і папрасіў яго:

— Я вельмі хацеў-бы стаць вашым вучнем. Мяне завуць Анатоль Хаценчык.

— Я трохі ведаю цябе, Толя, — сказаў Рубін. — Хлопец ты, здаецца, нядрэнны... Толькі вельмі ўжо худы і доўгі... І мускулатура ў цябе не зусім развітая... Але нічога... Папрацуем з табой і пастараемся зрабіць усё магчымае.

Ішоў час. Студэнт Інстытута фізічнай культуры А. Хаценчык аказаўся на рэдкасць працавітым. Ён мог да сёмага поту выконваць тыя практыкаванні, якія яму дрэнна ўдаваліся. Асабліва цяжка даваўся бакавы ўдар злева, які потым стаў яго каронным ударам.

У многіх баксёраў упэўненасць у сябе з'яўляецца пасля перамогі над моцным праціўнікам. Гэта натуральна. А ў Анатолія такая ўпэўненасць з'явілася пасля паражэння. Гэта было ў 1954 годзе. Пасля ўпартай барацьбы з украінцам Калітвянскім ён зразумеў, што гатовы да сур'ёзных баёў.

Ленінград... Анатоль, як член зборнай СССР, атрымаў права ўдзельнічаць у сустрэчы СССР — Фінляндыя. На рынгу — чэмпіён Фінляндыі Таркелі, удзельнік многіх міжнародных сустрэч; ён правёў больш 100 баёў. Калі Анатоль Хаценчык выйшаў на рынг, Таркелі аб нечым хутка загаварыў са сваім трэнерам. Відаць, размова ішла аб знешнім аблічы савецкага баксёра. Толя быў спакойны. Аднак то было толькі знешне. Усё-ж, гэта яго першы міжнародны бой!.. Гонг... Анатоль умомант увесь перамяніўся. Пачынаюцца імклівыя атакі. Хутка становіцца зразумела, што мінчанін намнога пераўзыходзіць фіна. У другім раўндзе з прычыны яўнай перавагі Хаценчыка бой спыняецца. Праціўнікі пакідаюць рынг, каб тут-жа прадоўжыць сваю сустрэчу сяброўскай размовай.

— Ён вельмі добры хлопец, — гаворыць Хаценчык аб Таркелі, — і калі я яму калі-небудзь прайграю, то не буду аб гэтым шкадаваць. Мы-ж з ім сталі сябрамі!

На Спартакіядзе народаў СССР Хаценчык заняў другое месца ў Саюзе; яму было прысвоена званне майстра спорту СССР.

Сёлета ў матчы БССР—РСФСР Анатоль сустрэўся з поўцяжкавагавікам Расійскай Федэрацыі Анічкіным. Мінчанін перамог. Ідучы з рынга, ён нечакана ўбачыў сярод ганаровых гасцей знаёмы твар. Хаценчык некалькі імгненняў угледаўся ў яго і раптам успомніў: гэта-ж яго даўнішні герой Нікіта Круцікаў, а ў жыцці — заслужаны артыст РСФСР Пераверзеў. Яны разгаварыліся. Анатоль расказаў, як пяць год таму назад вобраз, створаны артыстам, вырашыў яго спартыўны лёс.

— Ну што-ж, вы дабіліся свайго! Жадаю вам на фестывалі ў Маскве яшчэ большых поспехаў! — паціснуў на развітанне руку баксёра Пераверзеў.

Тэкст і фото майстра спорту СССР Я. НОВІКАВА.



— І вам дастанецца, калі не будзеце рыхтавацца...

Артур ВОЛЬСКІ

## Слоў не кідайце на вецер...

Ты не кліч мяне, гармонік, —
Не спынюся, прабягу.
Я спяшаюся сягоння,
Я спазніцца не магу.

— На спатканне?..
— На спатканне...
— Дачакаешся бяды!..
— Пакахаў я, хлопцы, Таню
І, здаецца, — назаўжды...

— Ну, здзівіў!.. Вядома — Таню, —
Адказалі сябрукі, —
Як лунацік, да світання
Ходзіш з ёю ля ракі.

— Мо' запросіш нас у сваты?
Мы-бы з радасцю... Але
Прыгажэйшыя дзяўчаты
Ходзяць, хлопча, па сяле...

І яшчэ дадаў Мікола:
— Лепш прыгледзься! Гэта што-ж:
Нос кірпаты, вочы — колы,
І вяснушкі да таго-ж!..

Над ракой, нібы ў тумане,
Чэзне месяц-маладзік.
У мяне пытае Таня:
— І чаго ты ўсё глядзіш?..

Я-ж каханай проста ў вочы
Углядаюся як след...
Ды за імі, калі хочаш,
Абыйду я цэлы свет!

З жыта звіты ў любай косы,
І на іх — бурштынкі рос.
Ну, а што-ж датычыць носа —
Дык зусім да твару нос.

Заспявала — змоўклі птушкі,
І ў тым ліку — салавей...
А вяснушкі... Што вяснушкі?
З імі нават прыгажэй!

Каснічок упаў на плечы.
Сам яго я завяжу...
А хлапцам я пры сустрэчы
Заўтра гэтак адкажу:
— Вашы жарты недарэчы,
Я каханнем даражу.

Слоў не кідайце на вецер,
Бо і вас не абміне...
Даражэй за ўсіх на свеце
Стала Таня для мяне.

І яшчэ... Мяне хацелі
Папярэдзіць аб бядзе...
Што-ж, калі бяда — вяселле,
Дык хутчэй няхай ідзе!

Уладзімір КОРБАН

## „Фіз“ і „Культура„

Мікола боксам захапляўся.
А што-ж, пахвальна юнаку
Мець моцную і цвёрдую руку.
Дык вось, ён дзень пры дні трэніраваўся.
І пасляхова, сапраўды.
Калі на рынг выходзіў, дык тады
Міколам кожны любаваўся:
Прыгожы, статны, — плечы, грудзі,
А біцэпсы такія, што ой-ой!
«Мікола чэмпіёнам будзе! —
Казалі ў захапленні людзі. —
Быка ён можа паваліць адной рукой!»
І пэўна, што пры таленце ягоным,
Мікола стаў-бы чэмпіёнам,
Ды здарылася ліха тут:
У самым росквіце баксёрскай славы,
Папаў баксёр... пад суд
За справы,
Што хуліганствам лічацца у нас.
Міколу, бачыце, ўвесь час
Выключна сіла захапляла.
З вядомых фізкультурных рыс
Мікола ведаў толькі — «фіз».
«Культура» для яго не існавала.
Бывала,
Ну так і ладзіць, каб каго
Зваліць адменным аперкотам.
Прычын для бойкі не шукаў пры гэтым, —
Урэжа, вось і ўсё. Хваліўся, што ў яго
Звыш сотні бітых твараў на рахунку
На рынгу, — майстар хоць куды,
А ў парку ад яго нацерпішся бяды:
Прычэпіцца — няма ратунку.
К чаму мая размова?
Каб славу поўную здабыць,
Не толькі моцным трэба быць,
Але й культурным быць абавязкова.

## Баран

Баран брахаць злаўчыўся, як сабака.
Дзе толькі не ідзе, усё — гаў ды — гаў!
«Ого! — здзівіўся конь, — ты, бачу, забіяка!»
«А што-ж, — я майстрам слова стаў!»
«Ну, гэтага-б я не сказаў,
Хаця і сапраўды ты налаўчыўся,
Але майстэрства не набыў.
Каб ты бязмозгім бараном не быў,
Дык і брахаць-бы не вучыўся.
Падумаеш, знайшоўся зух!
Ты, дружа мой, патрапіш на ланцуг,
Бо брахуну, — дадаць магу, —
Належыць і сядзець на ланцугу».
Вось іншы раз і хлопец малады,
І добра выглядае,
А гэтак брыдка вас аблае
На ўсе лады.
Ён думае — зрабіў разумна і прыгожа,
А зразумець таго не можа,
Што ўсё гэта — ад дурнаты.




**Міхась СКРЫПКА**

**Гумарэска**

Мал. І. Атраховіча

Бывае-ж так, што чалавек мае два імёны. А майму герою і гэтага мала: ён мае іх аж тры. Як толькі нарадзіўся дык у метрыках запісалі яго Рыгорам. А як толькі пачаў разбірацца ў колеры вачэй бландынак і брунетак, дык сам сябе перахрысціў на Гарыка. А вось адкуль пайшло трэцяе імя — Агарак — цяжка сказаць. Магчыма нават, што гэтыя самыя бландынкі ды брунеткі так яго і празвалі. Не жадаючы крыўдзіць нашага героя, будзем зваць яго Гарыкам.

Гарык — рамантык. Прыгоды для яго — мэта жыцця. Куды ні пайдзі — і ён там: і на вечарынцы, і ў клубе між дзяўчат. Вы спытаеце: а на працы? Эге! Варта толькі крыкнуць: «А ну, хлопцы, хто ў Казахстан?», як адразу наш Гарык бяжыць са сваім паходным чамаданам, абклееным ярлыкамі дзесяткаў станцый і, вымаючы сваю самапіску, бадзёра адказвае: «Ёсць, у Казахстан! Давайце падпішу кантракт!» Глядзіш, праз пару месяцаў гарыкавы сябры ўслед за лістамі шлюць бацькам грошы. Гарык-жа больш налягае на лісты. Пасля таго, як матчыны грошы ды авансы падыйдуць к канцу, Гарык даволі празаічнымі лістамі пачынае штурмаваць сэрца маткі: «Дарагая матуля, жыву нішто сабе: учора размяняў апошні чырвонец, а клімат мне тут не зусім падабаецца. Урачы раяць мяняць подыхі стэпу на шум беларускіх лясоў. А я-ж у цябе адзін. Так што тры-чатыры сотні на дарогу мне хопіць».

Глядзіш, праз пару месяцаў яго сіпаты гармонік ужо скуголіць па завуголлю суседніх вёсак.

А калі яго спрабавалі сароміць за такі спосаб жыцця, дык Гарык, папраўляючы свой чорны, як у цыгана, чуб, заліваўся нейкім купленым смехам:

— Эх вы, цвыркуны-запечнікі! Капаецеся тут у зямлі, як тыя краты, і свету не бачыце. Каб не кантынентальны клімат Казахстана, бачылі-б вы мяне тут, як без люстэрка свае вушы...

Хітравата падміргнуўшы, ён выцягваў з кішэні пачак фотакартак дзяўчат, падаваў нам і тут-жа расказваў аб кожнай дзяўчыне. У такія хвіліны мы нават зайздросцілі Гарыку: колькі дзяўчат яго любяць! Але наш Грышка, вядомы жартаўнік з трэцяй брыгады, аднойчы асадзіў гэтага сэрцаеда.

— Сумняваюся, каб за два месяцы столькі дзяўчат у цябе закахалася. Ты, што-ж, як той старадаўні палкаводзец: прыйшоў, паглядзеў і перамог?

— А ты, цвыркун, не сумнявайся, а чытай подпісы.

Грышка ўзяў фотакарткі, прачытаў кожны надпіс і зусім сур'ёзна, нібы чытаў акт рэвізійнай камісіі, прамовіў:

— Відаць, усе твае дваццаць каханак — блізняты, бо ўсе адным почыркам і адным сказам табе падпісалі аб вечным успаміне. Нават адной самапіскай падпісана,— тут Грышка пакасіўся на гарыкаву самапіску.

Гарык памкнуўся апраўдацца, але слухаць яго доказы не было ўжо каму.

І з таго часу наш Дон-Жуан нікому не хваліўся сваімі крадзенымі фото. Нават, як нам здалося, крыху і нос ніжэй апусціў. Глядзім, і на працу з калгаснай моладдзю выходзіць. Дзень працуе, а тыдзень вылічвае, колькі ўжо зарабіў і што за гэта атрымае.

А нешта раз, седзячы з намі пад лявонавай ліпай на лавачцы і гледзячы на жураўліны ключ, што ляцеў з выраю, сказаў:

— Гляджу я на іх і думаю: разумныя птушкі, лётаюць па розных Афрыках і Кардыльерах, а птушанят выводзіць дамоў ляцяць. Ці не пара і мне якім гняздом абзавесціся?

І папаўзлі па сялу чуткі: «Гарык жаніцца хоча». А там і мы даведаліся, што хлопец нявесту шукае. Ды куды ні сунецца — адбой! Ён і так, ён і гэтак — ні блізка дзяўчаты. Ім, бачыце, падавай каханне. А дзе ён ім возьме гэтае каханне, калі ён толькі ўмее языком малоць. І хлопец аж са скуры вылузваецца, каб якую бландынку ўгаварыць за жонку. Дайшло да таго, што на калені перад некаторымі станавіўся. А яны нават слухаць не хочуць. Горш таго. Сабраўшыся дзе-небудзь на лавачцы, як тыя сарокі на плоце, адна другой: чы-чы-чы-чы, і ўсё раскажуць, як на калені станавіўся, як сватаўся.

А раз у суботу Зоська, Кухталёвага Васіля дачка, гаворыць сяброўкам:

— Ведаеце, дзяўчаткі, мяне гэты жанішок, што клянецца ўсім у каханні, проста зацікавіў. Парайце яму сёння пасля танцаў да мяне пасватацца, а самі пахавайцеся за кустом бэзу ля нашай хаты і паглядзіце, што з гэтага выйдзе.

Так і зрабілі. Усё ішло, як па змове. Гарык і тут пайшоў з той-жа нагі. Ён укленчыў перад Зоськай і абяцаў усё жыццё насіць яе на руках. І тут-жа, б'ючы сабе ў грудзі кулаком, кляўся, што толькі адну яе кахае пяты год.

— Даўно хацеў прызнацца, але саромеўся.

— Баюся я за цябе ісці, кінеш мяне, насмяешся, а чаго добрага і біць будзеш.

— Хай мне рукі паадсыхаюць, калі я іх падыму на цябе. Я цябе ўсё жыццё на руках насіць буду...

Зося, заглядваючы хлопцу ў вочы, гарэзліва сказала:

— Калі так кахаеш і абяцаеш усё жыццё на руках насіць, дык дакажы гэта цяпер-жа. Будзь рыцарам і данясі сваю даму сэрца да нашай хаты.

Гарык не чакаў такога павароту і, разгубіўшыся, не ведаў, што рабіць. Ды яно і было чаго разгубіцца: дзяўчына была мажная і важыла, мабыць, кілаграмаў пад васемдзесят. Хвіліны дзве ён стаяў, а потым, нацягнуўшы шапку, падхапіў Зоську і панёс. Прanesшы крокаў дзесяць, ён спатыкнуўся, але, абапёршыся аб плот, не ўпаў. А дзяўчына і не думала аб зямлі, моцна абхапіўшы Гарыка, як каваль Вакула чорта, яна шаптала збянтэжанаму хлопцу пяшчотныя словы. А ў хлопца ногі дрыжэлі, у вачах плылі кругі, а лоб пакрыўся дробнымі гарошынамі поту.

Несці яшчэ трэба было крокаў сто пяцьдзесят. Дайшоўшы да першай лавачкі, ён хутчэй прастагнаў, чым прашаптаў:

— Прысядзем, я табе нешта скажу.

— Э, не-е-е. З першага разу і ўжо не трымаеш свайго слова. Абяцаю, усё жыццё на рукі не лезці, але сёння данясі да нашага ганку. Тады паверу, што кахаеш.

Гарык выцер рукавом пот і хацеў ужо несці далей свой крыж, але тут раптам пачуўся гучны рогат добрага дзесятка дзяўчат.

Цяпер Гарыку больш за ўсё хацелася, каб гэта быў сон, або каб праваліцца скрозь зямлю хаця-б на тыдзень.

Праўда, падарожжа ў нетры зямлі ён не зрабіў, а пару тыдняў пасля гэтага на людзі не паказваўся. Відаць, зразумеў хлопец, што такім чынам сабе нявесты не выбераш, а ганьбы не абярэшся.

І вось ужо колькі часу, як няма ў нас гэтага Агарка, які курэў між нас. Знік у невядомым напрамку, нават не пакінуўшы нам адрасу.





— Увага, увага! Ці няма ў вас свайго Агарка? Дайце яму прыпарку!..



У Беларускім Дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага працуе гурток кіноаматараў. Да Усесаюзнага фестывалю гурткоўцы вырашылі стварыць фільм пра студэнцкае жыццё. На здымку: рэпетыцыя эпізода, які расказвае аб актывістах мастацкай самадзейнасці. Злева направа — Г. Дэвойна, В. Струлёў і С. Жук.

Фото А. Дзітлава.



Ланскую кадрыль цяпер выконваюць не толькі ў вёсцы Лань, але і ў многіх клубах і дамах культуры рэспублікі. Група ўдзельнікаў самадзейнасці Нясвіжскага дома культуры і Ланскага сельскага клуба выконвае першую фігуру кадрылі. Гэтую кадрыль летам 1957 года мінчане ўбачаць на фестывалі.

Фото А. Дзітлава.

# Ланская кадрыль

Было гэта некалькі год назад. Моладзь у сваім клубе ў Лані гуляла вечарынку. Польку змянялі кракавяк, вальс... І вось нехта з аматараў, што пабываў на розных танцавальных пляцоўках, вырашыў паказаць навіны—фоксы і румбы. Адна пара пачала такія выбрыкі, што прысутныя смяяліся, а пажылыя жанчыны нават адварочваліся.

— Топчуцца абы-як... Якія гэта скокі,— заўважыла Палагея Іванаўна Дудко.— Вось мы некалі сваю кадрылю скакалі. Ва ўсёй ваколіцы ніхто не ўмеў скакаць яе так, як ланскія хлопцы і дзяўчаты!..

— Што-ж гэта за кадрыля, Палагея Іванаўна? — зацікавіліся Ніна Дашко і яе сяброўкі.— Пакажыце, навучыце нас! — папрасілі яны цётку Палашку.

— І навучу,— ганарліва сказала Палагея Іванаўна.— Толькі, каб вось такіх выбрыкаў на гулянках не рабілі,— і паказала на тых, што выламліваліся, танцуючы фоксы...

Праз які дзень цётка Палашка, падгаварыўшы такіх-жа, як і сама, прыйшла ў клуб на першую рэпетыцыю. Ды вось бяда: у вёсцы няма музыканта, які змог-бы іграць «сваю кадрылю». Палагеі Іванаўне давялося выконваць дзве ролі: іграць «на язык» і вучыць новаму танцу. Станцавалі — атрымалася нядрэнна, усім падабалася.

Неўзабаве і музыкант знайшоўся. «Па камсамольскай лініі» даручылі яму навучыцца іграць гэтую кадрыль. Знайшліся ахвотнікі, якія таксама пажадалі ўдзельнічаць у танцы. Так стварыўся танцавальны гурток. У рэпертуар мастацкай самадзейнасці Ланскага сельскага клуба ўвайшла шматфігурная «Ланская кадрыль». Дзяўчаты-камсамолкі Надзя Дудко, Юля Юхноўская, Антаніна Чычка, Ніна Дашко, хлопцы — браты Плаксы, Іван Шуста аднавілі вядомы народны танец, які прынёс іх калектыву шырокую славу. Вясковыя артысты выязджалі ў Маскву на Усесаюзны агляд мастацкай самадзейнасці, выконвалі там сваю кадрыль. Яна атрымала высокую ацэнку сталічных гледачоў. Не адзін раз пасля гэтага выступалі яны ў Мінску і іншых гарадах.



— Не ўтрымаўся, сам у бокі ўзяўся. Гоп, гоп!..

Так «Ланская кадрыль», створаная і адшліфаваная на працягу дзесяцігоддзяў народам, выйшла ў наш час на шырокую прастору. Зараз кадрыль танцуюць не толькі ў Нясвіжскім раёне, але і ў Ляхавіцкім, Клецкім, Стаўбцоўскім, Мірскім і іншых раёнах рэспублікі.

На жаль, з калектыву самадзейнасці Ланскага клуба за апошнія гады выбылі многія былыя выканаўцы. Іх месцы занялі новыя. І дзіўна: на Ланскую кадрыль тут пачынаюць забывацца.

Дасягнутае моладдзю не павінна сыходзіць са сцэны.

**В. ФАМІЧ.**

Нясвіжскі раён.

# Сям'я з Малінаўкі

„Добры дзень, паважаны Іосіф Кліменцьевіч! Напэўна, вы будзеце здзіўлены, атрымаўшы гэты ліст. Піша вам дзяўчына з Украіны. Пасля работы, у абедзенны перапынак, я прачытала сваім таварышам, рабочым, артыкул, які быў змешчаны ў газеце «Правда» аб вашай таленавітай сям'і. Як-быццам мы знаходзіліся з вамі побач і слухалі вашу музыку. Нам чувацъ былі гукі цымбалаў і акардыёна, скрыпкі і фартэпіяна... Як мы рады за вас, што вам ўдалося выгадаваць такіх дачок і сыноў. Жадаем вам новых поспехаў, шчасця і здароўя, і яшчэ пражыць сто год. Шлем вашай сям'і з братняй Украіны сваё гарачае прывітанне!

Па даручэнню групы маладых рабочых будаўнічага трэста № 45 горада Херсона.

Валя Галенка".

«Добры дзень, дарагія сябры і аматары музыкі! З газеты я даведаўся аб тым, як вы сваёй сям'ёй граеце на розных інструментах. Цудоўны ваш ансамбль! Ці нельга больш падрабязна даведацца ад вас пра цымбалы: ці ёсць у вашым раёне майстры, якія робяць гэтыя інструменты, ці можна даць ім заказ. Мне вельмі хочацца граць на цымбалах!..

Якаў Жураўлёў, сяло Красны Яр Молатаўскага раёна Сталінградскай вобласці».

Гэтыя лісты ўзяты намі з вялікай кардоннай каробкі, у якой беражліва захоўваецца велізарная колькасць зялёных, сініх, блакітных, белых канвертаў. На ўсіх іх адзін і той-жа адрас: Маладзечанская вобласць, Івянецкі раён, вёска Малінаўка, І. К. Лямбовічу.

Мы пераступілі парог у тую мінуту, калі сямідзесяцігадовы музыкант-калгаснік настройваў цымбалы.

— Дай «ля»... — вымавіў ён, не падымаючы галавы, і раяль, здавалася, сам азваўся. З-за раяля паказалася маленькая чарнявая дзяўчынка, якая назвала сябе Валяй. Яна растлумачыла нам, што заўсёды дапамагае дзеду настройваць інструменты.

У другой палавіне дома чуліся гукі баяна і асцярожны пявучы голас скрыпкі.

На раялі, побач з кардоннай каробкай, ляжаў саксафон. Зайшлі ў пакой юнакі, сыны Іосіфа Кліменцьевіча Антон, Іосіф і Пётр.

Завязалася гутарка. Нас распытвалі аб музычным жыцці Мінска, мы цікавіліся навінамі жыцця сям'і ансамбля музыкаў-самавучак.

— Граем! Граем шмат! Любім граць! — горача прамовіў бацька.

— Без музыкі Лямбовічы — не Лямбовічы, — усміхнуўся Антон.

— Мы пайшлі па бацьку, а бацька па дзеду...

— А дзед — па прадзеду! — дадаў Іосіф Кліменцьевіч.

Так мы даведаліся, што Міхаіл Лямбовіч граў на скрыпцы, а сын яго — Кліменці яшчэ і на кларнеце, і на аргане. І больш таго — сам быў музычным майстрам. Безліч ганаровых грамат атрымалі Лямбовічы на аглядах мастацкай самадзейнасці.

Зайшла ў пакой гаспадыня Юзэфа Іахімаўна, дочкі Вера і Стася. Сямейны ансамбль выканаў свае самыя любімыя творы: дуэты, трыё, сольныя нумары. Інструменты пераходзілі з рук у рукі. Кожны з музыкантаў граў то на цымбалах, то на баяне...

— Некаторых з нас, вядома, ужо не назавеш маладымі, — дабрадушна ўсміхнуўся ў канцы нашай сустрэчы Іосіф Кліменцьевіч, — але думаю, што на фестывалі ўсім нам дазволяць выступіць разам.

**А. ДЗІТЛАЎ.**

На здымку: **музычны ансамбль сям'і Лямбовічаў.**



# ШЛЯХІ ЮНАЦТВА

**Раіса МІХАЙЛАВА**



Волька Дзянісава (злева) і лепшая кетлёўшчыца Алеся Комава ў цэху.

Не трэба распытваць у віцяблян пра Маркаўшчыну. Дастаткова прыслухацца да назваў трамвайных прыпынкаў: Мясакамбінат, Мэблевая, Маслазавод, Фабрыка «КІМ», Шоўкаткацкая, Дыванова-плюшавы камбінат, каб зразумець, што гэта за раён.

Самае буйнае з тутэйшых прадпрыемстваў — фабрыка «КІМ». Рознастайныя панчохі — ад простых чатырохрублёвых да далікатных капронаў з моднай контурнай пяткай, трыкатажныя кофтачкі, бялізну, наскі вырабляюць кімаўцы. Фабрыка трымае другое месца ў Савецкім Саюзе па выпуску гэтай прадукцыі. Тут навейшая тэхніка, перадавыя метады працы...

У святле люмінесцэнтных лямпаў надта прыгожа выглядала тонкая белая павуціна капрону на машынах, калі мы зайшлі ў памяшканне. У самым канцы катоннага цэха на доўгім рабочым стале мякка стракаталі аверлокі— машынкі, што рабілі шво, і марудна паварочвалі іголкамі кецельныя машыны.

Невысокая жанчына спынілася і задуменна сказала:

— Бачыце, якая тэхніка! А калісьці што было?.. Я ўжо не кажу пра машыны. Мы з вёсак прыязджалі неадукаваныя, наіўныя. Вёска, як вядома, не такая была, як цяпер. Бывала, скінецца пас, а работніца і крычыць: «Механік, машына распраглася!»...

І жанчына, успомніўшы мінулае, расказала нам пра сябе, пра фабрыку.

1931 год. У цесных старэнькіх хатках на гарадской ускраіне яшчэ ідуць размовы аб цяжкасцях, аб хлебных картках, а побач вырастаюць гмахі новай фабрыкі. З якімі цяжкасцямі нараджалася фабрыка? Нехапала машын, сыравіны, электраэнергіі і, самае галоўнае,— людзей.

Па закліку партыі па камсамольскіх пуцёўках сюды рушылі з вёсак дзяўчаты.

Пятнаццацігадовая вясковая дзяўчынка Волька Дзянісава яшчэ не ведала, што такое індустрыялізацыя, але, упершыню трапіўшы з маткай у горад, цвёрда вырашыла — пайсці працаваць на фабрыку. Неўзабаве, сабраўшы свой небагаты скарб, дзяўчына пехатою прыйшла ў горад. Яе залічылі ў школу ФЗВ панчошнікаў.

У першыя дні Волька пашкадавала, што так зрабіла. Стыпендыі нехапала на пражыццё, у інтэрнаце было холадна ды і горад, які спачатку спадабаўся, цяпер быў нейкім чужым. Аднойчы, едучы ў трамваі, Волька ўбачыла, як у вагон зайшлі дзве вясковыя дзяўчынкі з клункамі і, нясмела агледзеўшыся, паселі проста на падлогу. Нехта з пасажыраў засмяяўся.

У Волькі на вачах раптам заблішчэлі слёзы. Яна-ж так добра разумела гэтых незнаёмых дзяўчат, іх нясмеласць, разгубленасць. Глянула на рагатуноў і адчула, што ў грудзях узнімаецца да іх пякучая нянавісць. Яна падышла да дзяўчат і загаварыла. Ажно ўсе яны ехалі туды, куды Волька,— на вучобу.

Вясной 1933 года Волька скончыла школу ФЗВ і разам з іншымі выпускніцамі прыйшла на «КІМ».

На ўсё жыццё запомніліся першыя дні на фабрыцы. Велізарны цэх амаль пусты. У цэнтры яго— стол, на ім некалькі кецельных машын. Ля сцяны — цэлая капа панчох. Іх трэба закетляваць. Гэта засталося ад учарашняга дня— кетлёўшчыцы не ўпраўляюцца. Зырка свецяць электралямпачкі.

Маленькая чарнавокая дзяўчына падыйшла да вольчынай машыны, паказала, як лягчэй трымаць панчоху, і вярнулася на сваё месца. Волька падумала пра чарнавокую: «Таварыская!» Потым давedалася, што дзяўчыну завуць Лена Норкіна. Лена сірата, прыйшла на фабрыку з дзіцячага дома і спачатку грубіяніла, не слухала майстроў. Потым стала ўдарніцай і брыгадзірам. У часе абеду яна сабрала ўсіх нядаўніх вучаніц і сказала:

— Дзяўчаткі, бяру над вамі шэфства. Хочаце, каб у нас на фабрыцы была першая камсамольска-маладзёжная брыгада?

Ну, вядома, усе былі згодны.

Яшчэ ў школе Волька лічыла, што кетлёўка — самая спакойная работа: сядзі сабе за сталом і накідвай петлі на тонкія металічныя іголкі — токалі. Але пасядзіш гэтак сем гадзін, і блытаюцца, не трапляюць на токаль петлі, рукі робяцца як не свае. У такіх выпадках Лена гаварыла: «Не трэба так моцна трымаць панчоху— не ўцячэ».

Волька старалася. З кожным днём ёй усё больш падабалася і праца, і людзі, і наогул усё на фабрыцы.

У абедзенны перапынак у цэху наладжваліся кароткія, але заўсёды бурныя камсамольскія сходы. У чырвоным кутку паказвалі светавую насценгазету, на двары наладжвалі танцы. Жыла цяпер Волька з сяброўкамі ў новым інтэрнаце, недалёка ад фабрыкі, у чыстым пакойчыку з кветкамі на падаконніках. Часта пасля працы да іх забягала Лена:

— Дзяўчаткі, арганізуем культпаход у кіно!

— Дзяўчаткі, у клубе цікавая лекцыя!

Шумлівай грамадой сяброўкі хадзілі ў кінотэатр. Прыемна было, калі ўсе любаваліся іх кімаўскімі блакітнымі майкамі і сінімі сацінавымі спадніцамі. Бач, рабочы клас ідзе!..

Потым неяк на камсамольскім сходзе Лена сказала:

— За апошні час вельмі падцягнулася Волька Дзянісава. Думаю, што яна заслугоўвае звання ўдарніцы.

Тоненькая чырвоная кніжачка ўдарніцы з'явілася ў вольчынай сумачцы. І кожны раз, калі дзяўчына брала яе ў рукі, яна ў думках гаварыла сабе: «Буду такой, як Лена».

Першае грамадскае даручэнне — сабраць падпіску на газеты ў цэху. Волька не ўмела складана гаварыць. Калі нехта з рабочых насмешліва спытаў: «А ты хоць сама газеты гэтыя чытаеш?» — яна збянтэжылася, але настойліва паўтарыла:

— А вы ўсё-ж падпішыцеся.

Вечарам, прышоўшы ў інтэрнат, Волька ўпершыню разгарнула газету. Кінуўся ў вочы загаловак: «Авалодваць тэхнікай!» Уважліва прачытала ўвесь артыкул. Значыцца, Лена нездарма агітавала дзяўчат займацца ў тэхнічным гуртку. Дзіўна ўсё-ж: гаворыць, гаворыць пра што-небудзь на сходзе і, здаецца, што ўсё гэта толькі цэхавыя справы. А вось прачытаеш пра тое самае ў газеце, і адразу бачыш — пытанне дзяржаўнага значэння. Выходзіць, што ўсё гэта вельмі важна. І тое, што дзяўчаты займаюцца ў тэхнічным гуртку, і тое, што яны змагаюцца за чыстае рабочае месца, і што паспяхова правялі падпіску на газеты.

Неўзабаве, адны з першых, Лена Норкіна, Волька Дзянісава, Волька Васілёнак і Таня Мартынічава здалі экзамен на значок «ЗАТ». З белага кружка эмалі на значку ўсміхаўся Ленін, а вакол словы — «За авалоданне тэхнікай».

Праз тыдзень — новая ўрачыстасць. Прыехала з Масквы Марыя Маркаўна Кагановіч, старшыня ЦК прафсаюза работнікаў лёгкай прамысловасці. У дзень Першага мая, пасля парада, яна ўручыла Чырвоны сцяг і Ганаровыя граматы наркамата лепшай на фабрыцы брыгадзе — брыгадзе, дзе ўсе семнаццаць работніц сталі ўдарніцамі.

Першая чырвонасцяжная камсамольска-маладзёжная!

У выхадны дзень, прыехаўшы да маці ў вёску, Волька не магла нагаварыцца: усё расказвала

Васіль МАЕЎСКІ

## ЦІТАВЫ ЛЕКІ

Юрась суседзям даўся ў знакі,
Хоць меў якіх дванаццаць год:
Ката напудзіць ці сабаку,
Залезе у чужы гарод.

Бацькам-жа скажаш: «Вы за сынам,
Відаць, зусім не глядзіце»...
Мікола, а за ім Мальвіна:
«Паразумнее, падрасце.»

І рос Юрась, нягоднік гэткі,
З бацькоўскай лёгкае рукі...
Аднойчы адвячоркам летнім
Забраўся ў цітавы гуркі.

Зглуміў націну ўсю на градках,
Гуркоў мо' з пуд налаташыў.
Ды не паспеў падмазаць пяткі,
Злавіў Ціт Юрку на мяжы.

— Не першы раз ты тут, здаецца...
Не могуць навучыць бацькі? —
І — крапівой па голым месцы:
Ледзь не згубіў Юрась парткі...

А праз якую поўгадзіну
На вёсцы быў чарговы цуд:
Кляла ўсіх цітавых Мальвіна,
Грозіў падаць Мікола ў суд.

Ці будзе суд той, ці не будзе —
Нам мала да таго турбот;
Юрась-жа, кажуць з вёскі людзі,
Не лезе ў цітаў больш гарод.

Ну, а Мікола як з Мальвінай?
Ніяк не зменяць нораў свой.
А я спачатку-б іх — не сына —
Адшпарыў цітавай травой.

---

пра тое, як іх брыгадзе ўручалі сцяг, што пры гэтым гаварыла Лена, як яны аддавалі калектыўны рапарт аб сваіх поспехах. А потым узнагароджвалі ўдарнікаў, і ёй, Вольцы Дзянісавай, выдалі першую ў жыцці прэмію — 75 рублёў.

Дні беглі гарачыя, напружаныя, запоўненыя радасцямі і трывогамі.

У сярэдзіне лета ў клубе трыкатажнікаў комсамольцы арганізавалі «тэхбой» паміж рабочымі фабрыкі імя Клары Цэткін і кімаўцамі. Хто лепш адкажа на пытанні аб машынах, аб арганізацыі вытворчасці? Ішлі ў клуб вясёлыя, упэўненыя ў сваіх ведах, а вярталіся панурыя: моцна іх «пабілі» цэткінцы — кадравыя рабочыя. Значыць, трэба вучыцца!..

Пачуўшы аднойчы, як маці хваліцца суседцы сваёй дачкой, Волька густа зачырванелася і ўсклікнула:

— Ды кіньце, мама: лепшая, лепшая. Я ніякая не лепшая. Самая звычайная!

Цяпер на фабрыцы Вольга Рыгораўна Дзянісава — спрактыкаваная кетлёўшчыца. Нямала ўзнагарод атрымала яна за сваю працу яшчэ ў даваенныя гады... Ды і цяпер таксама.

— Вольга Рыгораўна, пракятлюем парачку разам,— звяртаецца да Дзянісавай начальнік цэха Анна Сцяпанаўна.— Трэба выявіць дэфект.

Прычына дэфекту аказалася нескладанай: пры павароце машыны некалькі петляў не траплялі на токаль. Калі абедзьве жанчыны канчаткова ўпэўніліся ў гэтым, Вольга Рыгораўна з палёгкай уздыхнула:

— Добра, Анна Сцяпанаўна! Я зараз усім дзяўчатам пакажу, адкуль ішоў брак.

...Грукочуць машыны ў катонным цэху. Рытмічна, зладжана ідзе вытворчы працэс, патокам выпускаецца гатовая прадукцыя.

У брыгадзіра Вольгі Рыгораўны за апошні час дзве рацыяналізатарскія прапановы: адна па скарачэнню вытворчых аперацый, другая — па паляпшэнню якасці прадукцыі. Некалі нясмелая радавая работніца, яна цяпер глядзіць не толькі на сваю машыну, але на ўвесь вытворчы працэс у цэху ўважлівым і крытычным вокам гаспадара.

А новае папаўненне няспынна прыходзіць у цэх. Цяперашняя моладзь бойкая, пісьменная,з сярэдняй адукацыяй. Папрацаваўшы ў брыгадзе Вольгі Рыгораўны хоць адзін дзень, усе дзяўчаты гавораць пра свайго брыгадзіра, што гэта чалавек чулай, шчырай душы і майстар з вялікім вопытам.

**г. Віцебск,**

**панчошна-трыкатажная фабрыка «КІМ».**

Пасля працы на кватэры ў Волькі Дзянісавай збіраюцца сяброўкі...
Фото У. Дагаева.



# Кастрычнік у Гомелі

**І. ІГНАЦЕНКА**

Рабочыя Гомеля, якія мужна змагаліся супраць буржуазна-памешчыцкага ладу ў гады першай рускай рэволюцыі, былі ў авангардзе барацьбітоў і ў лютаўскія дні 1917 года. 3 сакавіка 1917 г. яны першымі ў Беларусі ўтварылі Совет рабочых дэпутатаў. Але ў Гомельскім Совеце, як і ў радзе Советаў іншых гарадоў, большасць дэпутацкіх месцаў захапілі эсэры і меншавікі, якія праводзілі згодніцкую палітыку з буржуазіяй. Большэвіцкай фракцыі ў Совеце даводзілася працаваць у вельмі цяжкіх умовах.

Важным фактарам, які садзейнічаў умацаванню і далейшаму развіццю рэволюцыйных сіл, было ўтварэнне 18—19 сакавіка 1917 г. Гомельскай арганізацыі РСДРП(б). Палескі камітэт, выбраны 6 красавіка гомельскімі большэвікамі, узначаліў усю палітычную работу ў масах. Пад яго кіраўніцтвам працавала і большэвіцкая фракцыя ў Совеце.

Большэвікі растлумачвалі працоўным, што Часовы ўрад у сілу сваёй цеснай сувязі з міжнародным імперыялізмам не можа спыніць вайну. «Адзіная ўлада,— гаварылася ў рэзалюцыі агульнага сходу Гомельскай арганізацыі РСДРП ад 23 красавіка 1917 года,— якая адна здольна дабіцца хутчэйшага заканчэння гэтай бойні... — гэта Советы рабочых, салдацкіх, сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў, вакол якіх мы заклікаем арганізавацца рэволюцыйны народ і рэволюцыйную армію».

Усю работу ў масах большэвікі праводзілі пад лозунгамі: «Уся ўлада Советам!», «Ніякай падтрымкі часоваму ўраду».

24 красавіка на фабрыках, заводах, у казармах Гомеля і Нова-Беліцы пад кіраўніцтвам большэвікоў адбыліся масавыя мітынгі пратэсту супраць «ноты Мілюкова». Пад большэвіцкім лозунгам прайшлі мітынгі і дэманстрацыі рабочых, салдат і сялян навакольных вёсак і ў першамайскія дні. Рабочыя аказвалі матэрыяльную падтрымку большэвіцкаму друку. Толькі 5 мая 1917 г. для гэтай мэты было сабрана 6.000 рублёў.

Меншавікі, эсэры і бундаўцы імкнуліся збіць рабочых з рэволюцыйнага шляху, перашкаджалі развіццю стачачнага руху, увядзенню рабочага кантролю на вытворчасці. Яны падрыхтоўвалі чырвеньскую дэманстрацыю ў Гомелі ў знак салідарнасці з рашэннем Часовага ўрада пачаць наступленне на фронце. Але гэтыя спробы ганебна праваліліся. 8 чэрвеня 1917 г. у Гомелі адбыўся салдацкі мітынг, на якім была прынята рэзалюцыя з патрабаваннем перадачы ўлады ў рукі Советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

У выніку шырокай растлумачальнай работы большэвікоў расла палітычная свядомасць і арганізаванасць рабочых; яны ўсё больш уцягваліся ў актыўную рэволюцыйную барацьбу.

Расстрэл мірнай дэманстрацыі петраградскіх рабочых выклікаў хвалю пратэсту ва ўсіх кутках краіны. 7 ліпеня выйшлі на дэманстрацыю пратэсту і рабочыя Гомеля.

Расстрэл ліпеньскай дэманстрацыі ў Петраградзе азначаў, што перыяд двоеўладдзя закончыўся перамогай буржуазіі. У гэтых умовах VI з'езд РСДРП прыняў рашэнне аб падрыхтоўцы ўзброенага паўстання пролетарыята супраць буржуазіі. Выконваючы рашэнні з'езда, Палескі камітэт прыступіў у канцы жніўня да арганізацыі ў Гомелі баявых рабочых дружын.

Палескі камітэт кіраваў не толькі большэвіцкай арганізацыяй Гомельшчыны, яго ўплыў распаўсюджваўся і на шэраг валасных і павятовых цэнтраў і нават на губернскі цэнтр — Магілёў. У сувязі з тым, што ў Магілёве знаходзілася Стаўка Вярхоўнага камандавання, Палескі камітэт надаваў вялікае значэнне рабоце Магілёўскай партыйнай арганізацыі.

Ад дзейнасці Палескага камітэта ў многім залежаў поспех барацьбы з карнілаўшчынай. Абстаноўка патрабавала ўстанаўлення кантролю над Гомельскім і Жлобінскім чыгуначнымі вузламі. У гэтых мэтах Палескі камітэт накіраваў сваіх камісараў на чыгуначныя вузлы, пошту, тэлеграф, узяўшы па сутнасці ў свае рукі кантроль над паштова-тэлеграфнай і чыгуначнай сувяззю, ізаляваўшы тым самым Стаўку ад Поўднёва-Заходняга фронта і перашкодзіўшы Карнілаву кінуць свае войскі на Петраград і Маскву для падаўлення рэволюцыі.

Зразумеўшы, што ад Часовага ўрада і яго эсэра-меншавіцкіх пасобнікаў зямлі не дачакаешся, сяляне пачалі рашуча патрабаваць перадачы ўлады ў рукі Советаў. Масы сялянскай беднаты ўсё цясней згуртоўваліся вакол рабочых, вакол большэвікоў.

Абстаноўка, якая склалася ў горадзе, як і ва ўсёй краіне, дазваляла пераходзіць у рашучае наступленне супраць контррэволюцыі і браць уладу ў свае рукі. Падтрымліваючы рэволюцыйны Петраград, большэвікі Гомеля ў ноч з 25 на 26 кастрычніка арганізавалі Ваенна-рэволюцыйны камітэт, правялі сходы і мітынгі на многіх фабрыках і заводах, у воінскіх часцях і сёлах Гомельшчыны. Рабочыя, салдаты і сяляне прыступілі да перавыбараў Советаў, пасылаючы ў іх большэвікоў і адданых рэволюцыі рабочых, сялянбеднякоў, салдат.

Гомельскі совет 28 кастрычніка ад імя рабоча-сялянскіх мас адзінадушна вырашыў аказаць самую дзейсную падтрымку Совецкаму Ураду на чале з В. І. Леніным, а

30 кастрычніка 1917 г. узяў уладу ў горадзе і павеце ў свае рукі. У гэты-ж час Савецкая ўлада перамагла ў Мінску, Оршы, Віцебску, Полацку, Бабруйску і Мазыры. Устанаўленне Савецкай улады ў Беларусі перашкодзіла контррэволюцыі перакідваць войскі з фронта ў Петраград і Маскву.

Унутраная і знешняя контррэволюцыя не хацела прымірыцца з перамогай Савецкай улады. З усіх бакоў на нашу краіну рушылі ўзброеныя да зубоў полчышчы ворагаў. Іншакраінныя ваякі разглядалі Гомель як адзін з важнейшых стратэгічных пунктаў на шляху з поўдня ў Маскву. Да Гомеля ірваліся захопнікі з корпуса Доўбар-Мусніцкага, але пацярпелі паражэнне пад Жлобінам і Рагачовам.

У лютым 1918 г. войскам германскіх імперыялістаў удалося на кароткі час авалодаць Гомелем. На Гомельшчыне разгарнулася актыўная народная барацьба супраць акупантаў. Тут дзейнічалі дзесяткі партызанскіх атрадаў. 23 сакавіка 1918 г. імі быў вызвален Чачэрск. У снежні гэтага-ж года сяляне Кармянскай воласці Гомельскага павета пад кіраўніцтвам валасной парт'ячэйкі паўсталі супраць акупантаў, нанеслі ім паражэнне. У воласці была ўстаноўлена Савецкая ўлада.

Па закліку партыі з рабочыхдобраахвотнікаў быў сфармаваны «Першы Гомельскі рэволюцыйнапролетарскі батальён»; на сродкі працоўных Гомельшчыны было сфармавана 5 кавалерыйскіх эскадронаў. Гомельская партыйная арганізацыя паслала на фронт палавіну сваіх комуністаў.

Актыўная работа сярод мас працоўных, якую вялі гомельскія бальшавікі, мела вялікія вынікі. Вёскі адна за другою паўставалі супраць акупантаў. Гераічная барацьба рабочых і сялян Гомельшчыны прывяла да іх перамогі. 6 студзеня 1919 года ў Гомелі была зноў устаноўлена Савецкая ўлада.

Але не хацела здавацца і контррэволюцыя. У сакавіку 1919 г. белагвардзейцы арганізавалі ў Гомелі мяцеж. Ім кіраваў былы царскі афіцэр, агент замежнага імперыялізма Стракапытаў. Захапіўшы горад, стракапытаўцы аб'явілі несапраўднымі ўсе дэкрэты і пастановы Савецкай улады. Прыватная ўласнасць памешчыкаў і капіталістаў была аб'яўлена недатыкальнай, нацыяналізаваныя фабрыкі і заводы былі вернуты іх былым уласнікам.

Мяцежнікі са звярынай нянавісцю забівалі партыйных і савецкіх работнікаў. Яны па-зверску замучылі 25 гомельскіх комуністаў — Ланге, Камісарава, Білецкага і іншых.

Такія-ж мецяжы былі падняты ў Карме, Рагачове, Лоеве. Аднак яны ўсе былі падаўлены. Правалілася апошняя спроба белагвардзейцаў і замежных імперыялістаў вярнуць уладу капіталістаў і памешчыкаў.

Рабочыя і сяляне Гомельшчыны пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі разам з рабочымі і сялянамі ўсёй Савецкай краіны гераічна змагаліся за перамогу Кастрычніка. У гэтай свяшчэннай барацьбе яны заваявалі сабе права будаваць новае, шчаслівае жыццё.

**І. ІГНАЦЕНКА.**

# ПА СЛЯДАХ ГЕРОЯ

**Рыгор НЯХАЙ**

**Нарыс**



Ішла восень 1942 года, памятная ўпартымі баямі пад Сталінградам.

Становішча ў Віцебску ў гэты час было асабліва цяжкім. Непадалёку знаходзіўся фронт. У горадзе былі праведзены перарэгістрацыі насельніцтва. У пашпартах совецкіх грамадзян жандарамі рабіліся адзнакі. Тысячы людзей былі расстраляны, пасаджаны ў турмы, у канцэнтрацыйныя лагеры.

Цяпер ужо нельга было выйсці на вуліцу, калі захочаш. Згодна «каменданцкага часу», жыхары павінны былі сядзець дома з 5 гадзін вечара да 5 гадзін 30 хвілін раніцы. У гэты час забаранялася нават быць у суседзяў. За парушэнне — расстрэл на месцы.

Кожную ноч то ў адным, то ў другім канцы горада наладжвалася праверка дакументаў. Нават днём на вуліцах праводзіліся масавыя аблавы і ўсе падазроныя арыштоўваліся.

А як увайсці або выйсці з горада? На гэта трэба асобны пропуск камендатуры. Кругом па ўсіх дарогах і сцяжынках — патрулі і пасты. І вось у гэты суровы час у Віцебск ішла група дзяўчат. Сярод іх — невысокага росту жанчына. Нічым асаблівым сярод іншых яна не вызначалася: маладая з твару і толькі сівыя валасы сведчылі аб тым, што яна пражыла нялёгкае жыццё.

Гэта — былы сакратар ЦК комсамола Заходняй Беларусі Вера Харунжая. Ужо ў сваіх маладых гадах яна стала народнай гераіняй. Яе імя ў дваццатых гадах было вядома далёка за межамі Совецкай краіны і Польшчы, як імя бясстрашнай рэволюцыянеркі, да канца адданай справе Комуністычнай партыі, справе вызвалення працоўных. У дваццацідвухгадовым узросце яна ўжо — нязломны ленінец, кіруючы работнік падполля.

З якім захапленнем ўспамінаюць аб ёй сябры з Брэсчыны, Гродзеншчыны, Вільні і Беластока! Гэта яна на «Працэсе 193-х» у 1927 годзе смела кідае ў вочы суддзям словы праўды аб комуністычным руху, аб партыі, аб будучым вызваленні Заходняй Беларусі.

Незадоўга перад гэтым, чытаючы абвінавачваўчае заключэнне па справе Віленскага комсамола, яна гаварыла сваёй сяброўцы:

«Якія ўсе маладыя і ўжо спазналі, што такое турма, зняволенне, галадоўкі»...

Усё гэта ёй давялося зведаць і самой. За падпольную рэволюцыйную дзейнасць пілсудчыкі судзілі яе некалькі разоў. Калі склаці ўсё ў адзін прыгавор, то Веру Харунжую прысудзілі да 10 год катаргі. І якую трэба мець мужнасць і адвагу, каб тутжа, на судзе, заспяваць «Інтэрнацыянал»! Аб гэтым выпадку яна пісала сваім совецкім сябрам:

«Пра ход працэсу я пісала ўжо. Застаецца дадаць крыху, але, бадай што, самае прыгожае: магутны «Інтэрнацыянал» асуджаных пад градам удараў паліцэйскіх. А затым... ускудлачаныя валасы, парванае адзенне, сінякі і раны на твары, на ўсім целе. А вочы — сонца, полымя пажараў!»

Гучаў гэты магутны гімн і ў турэмных камерах Фардона на Віслe. А разам з песняй гучала і палымянае слова Веры Харунжай. Яна вучыла палітычных вязняў — дачок рабочых і сялян — стойкасці, мужнасці, бязмежнай адданасці ленінізму. І ў турме яна засталася актыўным барацьбітом.

У 1932 годзе на Мінскім вакзале беларускія комсамольцы сустракалі палітычную эмігрантку Веру Харунжую. Яе на руках вынеслі з вагона.

— Які прыгожы горад! — захаплялася яна Мінскам.

Вера Харунжая ўключылася ў новае жыццё. Але неўзабаве ёй зноў давялося ўзяць у рукі зброю і стаць на абарону Радзімы ад фашысцкіх полчышчаў. У першыя дні вайны яе напаткала вялікае гора — загінуў муж.

У жніўні 1941 года Вера Харунжая атрымала ад партызанскага штаба заданне звязацца з Цэнтральным Камітэтам Комуністычнай партыі Беларусі. Ён знаходзіўся тады ў Гомелі.

Адважная партызанка выканала заданне. З нянавісцю і болем расказвала яна ў ЦК аб зверствах, аб жорсткасці акупантаў. Адзіная просьба была накіраваць яе назад, у варожы тыл. Комуністка не магла сядзець склаўшы рукі ў такі цяжкі для Радзімы час. Таварышым нялёгка было пераканаць яе ў тым, што нельга задаволіць яе просьбу.

І вось учарашняя партызанка апынулася ў совецкім тыле. Там у яе нарадзіўся сын Сяргейка. Яна працуе ў калгасе, удзельнічае ў рабоце партыйнай арганізацыі, выступае на сходах, мабілізуе насельніцтва на дапамогу фронту. Ды хіба магло задаволіцца гэтым палымянае сэрца Веры Харунжай! Яно ірвалася на фронт або зноў у варожы тыл.

Харунжая піша пісьмы ў ЦК партыі, сваім знаёмым і сябрам з адзінай просьбай: дапамагчы ёй зноў заняць сваё месца ў барацьбе. Яна гатова выканаць любое заданне. Яна гатова на любы подзвіг і нават на смерць, каб толькі дапамагчы свайму народу ў цяжкую гадзіну.

Жаданне Веры спаўняецца. Яна пакідае маці і сёстрам сваю малую дачку Аню і чатырохмесячнага Сяргейку, а сама едзе ў Маскву.

Тут яе прызначылі на працу ў Цэнтральным штабе партызанскага руху. Ды што-ж зробіш? Вера кожны дзень заходзіла ў ЦК КПБ і прасілася, патрабавала даручыць ёй самую адказную небяспечную справу. Яна-ж загартаваная комуністка, вопытны падпольны работнік, ведае некалькі замежных моў!..

Сакратары ЦК КПБ і другія таварышы стрымлівалі Веру Харунжую, берaглі яе.

— Я больш не магу. Я ўся там, — адказвала Вера.

І нарэшце яна дамаглася свайго: яе паслалі ўпаўнаважаным ЦК у зняволены, заліты крывёю Віцебск. У дапамогу ёй была выдзелена група дзяўчат-добраахвотніц.

... Віцебск ужо недалёка, але туды ляжыць цяжкая дарога. Наперадзе фронт, за фронтам вораг, горад — у жалезным кальцы.

Вера з нецярплівасцю чакала таго зручнага моманту, калі з-за лініі фронта паведамяць: «Пара. Можна ісці».

У канцы верасня 1942 года доўгачаканы момант настаў. Прыйшла партызанская сувязная, якую звалі Бярозай. Яна правяла ў горад спачатку верыных сяброўак Дусю і Веру, а 1-га кастрычніка — і Веру Харунжую.

Незнаёмы горад. Дзе знайсці прытулак? Ёсць адрасы, ёсць рэкамендацыі. Але ці ўсе з тых людзей жывыя, ці ўсе на месцы, ці ўсе прымуць яе з адкрытай душой?

... У невялікі домік на адной з вуліц Віцебска, дзе жывуць дзве старыя настаўніцы, заходзіць незнаёмая з пасівелымі валасамі. На ёй чорнае паліто і цёмнасіняя шапачка. Ціха называе сваё новае прозвішча і просіць:

— Можа што з'есці ёсць. А калі не, то выбачайце...

Яе напаілі чаем і пакінулі начаваць. Назаўтра яна развіталася і пайшла. Праз некалькі дзён настаўніцы былі на Смаленскім рынку. Вера пазнала і сама падыйшла да іх. Яе запрасілі дадому, зноў пілі чай, гутарылі. Цяпер Вера была ўжо ў іншым адзенні — без паліто, толькі ў жакетцы.

Адна, другая незнаёмая кватэра, незнаёмыя людзі. Невядома, хто яны, як з імі размаўляць, якую чарговую гісторыю прыдумаць аб сабе... Аднак і ў такіх

*Бібліяграфія*

# Жыць так, як жыў Дзяржынскі

Адным з самаадданых барацьбітоў за свабоду і шчасце працоўных, за справу комунізма быў Феликс Эдмундавіч Дзяржынскі— вучань і бліжэйшы паплечнік вялікага Леніна.

Верны салдат рэволюцыі, ён у імя перамогі высакароднай мэты, у імя перамогі вялікіх ідэй перанёс самыя цяжкія нягоды. Але ні турма, ні высылка і катарга, дзе правёў Дзяржынскі адзінаццаць год, не зламалі яго волі.

Перад намі невялікая чырвоная кніга з сілуэтам Феликса Эдмундавіча — «Дзённік і лісты». * У кнізе сабраны лісты да родных, якія Дзяржынскі пісаў у 1898—1917 гг., пераважна ў зняволенні. Дзённік ён вёў у X павільёне Варшаўскай цытадэлі — адной з самых змрочных турмаў царызма — у 1908—1909 гг.

Семнаццацігадовым юнаком становіцца Дзяржынскі ў шэрагі барацьбітоў супраць прыгнёту і эксплуатацыі. Шэсць разоў ён арыштоўваўся царскім урадам, тройчы ўцякаў з высылкі.

Закаваны ў кайданы, на многія гады кінуты ў мураваны склеп турмы, ён высока трымаў сцяг партыі. Цяжкія выпрабаванні загартоўвалі яго волю, умацоўвалі веру і ўпэўненасць у правільнасць абранага шляху.

«У турме я выспеў у пакутах адзіноцтва, у пакутах тугі па свету і па жыццю. І, нягледзячы на гэта, у душы ніколі не нараджалася сумнення ў справядлівасці нашай справы... Я бачу велізарныя масы, прыведзеныя ўжо ў рух, якія расхістваюць стары лад,— масы, у асяроддзі якіх падрыхтоўваюцца новыя сілы для новай барацьбы... Я ганаруся тым, што я з імі, што я іх бачу, адчуваю, разумею і што я сам многае выпакутаваў разам з імі. Тут, у турме, часта бывае цяжка, часамі нават страшна... І тым не менш, калі-б мне трэба было пачаць жыццё нанава, я пачаў-бы яго так, як пачаў. І не па доўгу, і не па абавязку. Гэта для мяне — арганічная неабходнасць».

По цэнзурных умовах ні ў дзённіку, ні ў лістах Дзяржынскі не мог пісаць аб справах партыі, аб рэволюцыйнай барацьбе рабочых і сялян. Але са скупых радкоў, часцей за ўсё завуаліраваных, бачна тая велізарная праца, якую няспынна, нястомна вёў Феликс Эдмундавіч. У турме ён многа вучыцца, чытае, вывучае замежныя мовы. Нягледзячы на турэмныя перашкоды, знаходзіць спосабы адгукнуцца на ўсе падзеі грамадскага жыцця. Дзяржынскі вядзе энергічную барацьбу супраць правакатараў, выкрывае шпіёнаў, якіх турэмшчыкі падсылаюць у камеры, змагаецца за душы маладых, якія згінаюцца пад цяжарам змрочнай рэчаіснасці... «Неабходна ўсяліць у масы нашу ўпэўненасць у немінучым банкроцтве зла, каб імі не авалодала сумненне, каб яны перажылі гэты момант у стройных, гатовых да барацьбы радах».

Са старонак дзённіка, гэтага надзвычайнага чалавечага дакумента, паўстаюць змрочныя малюнкі мінулага пры царскім рэжыме ў Расіі, здзекі і катаванні над рэволюцыянерамі. А з якой велізарнай душэўнай цеплынёй паказаны ў дзённіку героі, якія мужна пераносілі ўсе нягоды турмы, адважна ішлі на шыбеніцу ў імя сваіх ідэй, у імя лепшай будучыні ўсяго чалавецтва.

За высокай каменнай сцяной, за жалезнымі кратамі Дзяржынскі марыць аб жыцці шырокім, усебаковым. «Я так хацеў-бы пазнаць прыгажосць у прыродзе, у людзях, у іх творах, захапляцца імі, удасканальвацца самому, таму што прыгажосць і дабро — гэта дзве родныя сястры». Усё гэта Дзяржынскі бачыў у працы на карысць народа. Аб гэтым ён неаднаразова піша ў сваіх лістах і ў дзённіку. «Шчасце — гэта не жыццё без клопатаў і смутку, шчасце — гэта стан душы». «... Той, у каго ёсць ідэя і хто жывы, не можа быць бескарысным... А пакуль б'ецца сэрца і жыве сама ідэя, я буду зямлю капаць, рабіць самую чорную працу, дам усё, што змагу»...

Дзяцей Дзяржынскі любіў шчырай любоўю, бачачы ў іх будучыню чалавецтва, дзеля якога ён змагаўся. У адным з лістоў да сястры ён пісаў: «Не ведаю, чаму я люблю дзяцей так, як нікога іншага... Часта, часта мне здаецца, што нават маці не любіць дзяцей так горача, як я»... У лістах да сястры, а пазней да жонкі Дзяржынскі з праніклёнай пяшчотнасцю піша аб выхаванні дзяцей, дае парады, як выгадаваць дзяцей здаровымі і моцнымі духам, сумленнымі, не эгаістамі, а людзьмі, якія ўмеюць жыць для народа.

Вялікай бацькоўскай любоўю прасякнуты радкі лістоў, прысвечаных сыну «дарагому Ясіку», якога Феликс Эдмундавіч ні разу не бачыў да сямігадовага ўзросту. «Не цяплічнай кветкай павінен быць Ясь,— пісаў у адным з лістоў Дзяржынскі.— Ён павінен у душы валодаць святыняй больш шырокай і больш моцнай, чым святое пачуццё да маці або да любімых, блізкіх, дарагіх людзей. Ён павінен здолець палюбіць ідэю,— тое, што аб'ядноўвае яго з масамі, тое, што будзе яркім святлом у яго жыцці. Ён павінен зразумець, што і ў цябе і ва ўсіх акружаючых яго, да якіх ён прывязаны, якіх ён любіць, ёсць любімая святыня, мацнейшая, чым любоў да дзіцяці... Гэтае святое пачуццё мацней за ўсе іншыя пачуцці, мацней сваім маральным наказам: «Так табе варта жыць, і такім ты павінен быць».

З якой пяшчотнасцю ўспамінаў Дзяржынскі аб сваіх, аб роднай маці. Але больш за ўсё ён думаў аб Радзіме, вышэй якой не было нічога ў яго на свеце. У далёкай высылцы або за мяжой, куды ён трапляў пасля ўцёкаў, у кароткія перадышкі між турэмнымі зняволеннямі, ён думаў аб Радзіме, аб сваіх сябрах па рэволюцыйнай барацьбе, аб народзе, які знемагае пад прыгнётам царызма.

Дзяржынскі любіў Беларусь. У лістах да сястры ён часта ўспамінае Дзяржынава (Ашмянскі раён Маладзечанскай вобласці), дзе правёў свае дзіцячыя гады. Душа, — піша Феликс Эдмундавіч,— «напоўнена песняю нашых лясоў і лугоў, і туманамі, і расой уранні, і нашымі пяскамі».

Турэмны цяжар не зламаў волю рэволюцыянера. Лісты Дзяржынскага прасякнуты верай у лепшую будучыню чалавецтва, у будучую рэволюцыю.

З турмы Ф. Э. Дзяржынскага вызваліла толькі лютаўская рэволюцыя. Ён адразу-ж уключыўся ў актыўную партыйную работу, у сваю «стыхію». Чалавек выключнай душэўнай чысціні і цвёрдасці, ён не ўмеў напалову ненавідзець або напалову любіць. Ён усяго сябе аддаў справе перамогі Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, барацьбе з контррэволюцыяй на пасадзе старшыні ВЧК.

Палымянае жыццё Дзяржынскага абарвалася нечакана. На баявым пасту закончыў свой жыццёвы шлях верны рыцар пролетарыята, высакароднейшы змагар комуністычнай рэволюцыі, нястомны будаўнік нашай прамысловасці, вечны працаўнік і бясстрашны салдат вялікіх баёў... так паведамлялася аб смерці Дзяржынскага ў звароце ЦК і ЦКК Комуністычнай партыі.

Слаўнае жыццё Феликса Эдмундавіча Дзяржынскага, частку якога можна бачыць з дзённіка і лістоў, будзе яркім узорам і слаўным прыкладам для нашай моладзі, для падрастаючага пакалення.

**Л. СТЭРЫН.**

---

* Феликс Дзяржынскі. «Дзённік і лісты». Выдавецтва «Маладая гвардыя», 1956 г.

---

умовах Вера працуе вельмі многа. Яна ўсё ведае: у якім напрамку рухаюцца варожыя часці, якая тэхніка сканцэнтравана ў горадзе, наколькі ўдала правялі бамбёжку нашы самалёты, якія аперацыі зрабілі совецкія патрыёты на чыгуначным вузле, на аэрадроме, у камендатуры, на вуліцах горада, чаго баіцца вораг, што яго непакоіць.




Пісьмо за пісьмом пасылае Харунжая ў падпольны гарком партыі, што знаходзіцца пры адным з партызанскіх злучэнняў поўночней Віцебска. Піша пісьмы ў ЦК, партызанскі штаб, сваім родным і знаёмым. Колькі ў гэтых пісьмах горкай праўды, вялікай любві і нянавісці, трапных назіранняў і глыбокіх вывадаў!

Але наступаў трагічны дзень. Прыкладна 14 лістапада 1942 года на явачную кватэру (Трактарная, 4), дзе ў гэты час знаходзілася Вера, чамусьці зайшло два нямецкіх афіцэры. Калі на кватэры з'явіліся сувязныя Бяроза і Дуся, Вера гутарыла з афіцэрамі, каб адцягнуць іх увагу і адвесці падазрэнні.

Што было рабіць? З якой патаемнай мэтай прыйшлі сюды гітлераўцы? Як, не выклікаўшы падазрэння, знікнуць з хаты? Трывожна было на сэрцы. Марудна цягнуліся пакутлівыя хвіліны. У 4 гадзіны зайшлі жандары, праверылі дакументы і арыштавалі ўсіх: Веру Харунжую, сувязных, сям'ю гаспадароў дома — Вараб'ёвых.

Суседзі пасля казалі, што групу «масквічоў» (так назвалі яны групу Веры) выдала нявестка Вараб'ёвых Ганна, якая неўзабаве была вызвалена з гестапа і пачала адкрыта супрацоўнічаць з немцамі.

Хто не ведае ў Віцебску былой люстэркавай фабрыкі? Яна размешчана ў цэнтры горада. Гэтае памяшканне і аблюбавала сабе чорнае гестапа. Там абарвалася жыццё многіх слаўных совецкіх патрыётаў, у тым ліку і жыццё нашай народнай гераіні Веры Харунжай.

Пра апошнія дні Веры Харунжай ходзяць весткі, якія, мне здаецца, бадай, праўдзівыя. Віцябльянка, якая сядзела ў адной камеры з Бярозай і засталася жывой, расказвае, што з допытаў Бяроза вярталася заўсёды акрываўленай і змучанай. Але найбольшыя катаванні вынесла Дуся. Ад яе дабіваліся, каб яна сказала, хто яна, з кім з партызанаў у сувязі ў горадзе. Вера сядзела ў асобнай камеры. На допыце яна заявіла, што ўсёй душой ненавідзіць фашыстаў і рабіла ўсё, каб іх знішчыць. Больш не сказала нічога. Гэта адзіныя словы, якія пачулі ад яе каты.

У адну з хмурых лістападаўскіх раніц з турмы вывезлі Бярозу і яе сяброўак, усяго 25 чалавек. Напэўна, у ліку іх была і Вера. Расстралялі совецкіх патрыётаў за Віцебскам у Іллаўскім яры. Некаторыя сцвярджаюць, што Вера Харунжая была павешана, а гестапавец, які дапытваў Веру, потым хваліўся, што ён расшыфраваў пісьмо, якое было пры ёй, і за гэта атрымаў узнагароду ад нямецкага камандавання.

Усе гэтыя весткі і да сённяшняга дня застаюцца недакладнымі. Яны патрабуюць далейшага даследавання і ўдакладнення. Адно да крыштальнасці зразумела, што ў асобе Веры Харунжай мы мелі адну з самых гераічных, самых адданых совецкіх жанчын. Яе імя будзе навек запісана залатымі літарамі ў ліку слаўных імён тых людзей, хто ўсё сваё жыццё аддаў неўміручай справе комунізма. Для мільёнаў юнакоў і дзяўчат яно будзе прыкладам таго, як трэба жыць і змагацца за сваю Радзіму, за ленінскія ідэі.

# Крызіс амерыканскай сістэмы асветы



У негрыцянскай школе.

У апошні час амерыканскі друк многа піша аб школьнай праблеме. Перш за ўсё звяртаецца ўвага на востры недахоп школьных памяшканняў, на дрэнную матэрыяльную базу школ. Член амерыканскага сената Хіл заявіў нядаўна прадстаўнікам друку: «Школам усёй краіны, ад першага да апошняга класа, пагражае найгоршы крызіс за ўсю нашу гісторыю. Нам нехапае 370 тысяч класных пакояў. Нам патрэбна каля 135 тысяч новых настаўнікаў. З гэтае прычыны амаль мільён школьнікаў займаецца ў школах не поўны час».

Паводле дадзеных амерыканскай статыстыкі, 900 тысяч школьнікаў вучыцца ў пакінутых старых казармах, у гаражах, у пустых бакалейных магазінах і іншых выпадковых памяшканнях. Адно з такіх памяшканняў, непрыгодных для школьных заняткаў, паказана на нашым здымку.

Газета «Н'ю-Йорк геральд трыбюн» апублікавала шэраг артыкулаў аб становішчы школ і настаўнікаў Іонкерса — вялікага прамысловага прыгарада Н'ю-Йорка. Вось што гаварылася ў адным з гэтых артыкулаў: «Нізкая зарплата настаўнікаў, перапоўненыя класы, дзіравыя трубы паравога ацяплення, праваленыя столі, падраныя падручнікі, сапсаваная каналізацыя—вось толькі некаторыя рэчы, якія з'яўляюцца бічом для школ Іонкерса».

Які-ж выхад з гэтага становішча прапаноўваюць амерыканскія газеты і часопісы? Часопіс «Н'ю-Йорк таймс мэгэзін» прапануе значна скараціць колькасць вучняў. Рост колькасці вучняў ён параўноўвае з пагубным для еўрапейскай цывілізацыі нашэсцем варвараў у пачатку сярэдніх вякоў.

Газета «Фры прэс» апублікавала пісьмо, аўтар якога лічыць «праблему перанаселенасці» самай неадкладнай праблемай сённяшняга дня. Неабходна ўстанавіць кантроль над ростам насельніцтва, сцвярджае аўтар пісьма і прапануе ўвесці прагрэсіўныя падаткі на сем'і, дзеці якіх вучацца ў школе.

Тут дарэчы будзе сказаць, што за апошнія 10 год плата за навучанне павялічылася ўжо на 70 працэнтаў. Гэта вымушае дзяцей з бедных сем'яў зусім адмаўляцца ад наведвання школы. 495 чалавек з кожнай тысячы вучняў пасля заканчэння пачатковай школы не могуць вучыцца ў сярэдняй школе. Згодна даклада «Нацыянальнай камісіі па пытаннях дзіцячай працы», толькі палова дзяцей, якія паступаюць у сярэднюю школу, заканчваюць яе. Астатнія вымушаны пакінуць школу, каб дапамагаць сваёй сям'і. Нездарма-ж у ЗША налічваецца цяпер звыш 10 мільёнаў непісьменных.

Упадак сярэдняй школы адбіваецца і на вышэйшай школе. За апошнія гады стаў хутка скарачацца кантынгент навучэнцаў вышэйшай школы. За 5 год — з 1950 па 1954 год колькасць выпускнікоў у галіне прыродазнаўчых навук скарацілася з 59 тысяч да 29 тысяч, а ў галіне тэхнічных навук — з 52 да 22 тысяч.

Школам нехапае кваліфікаваных спецыялістаў. Адна з прычын гэтага заключаецца ў тым, што настаўнікі атрымліваюць нізкую заработную плату. Для таго, каб як-небудзь звесці канцы з канцамі, настаўнік павінен, акрамя школы, працаваць яшчэ дзе-небудзь.

Амерыканскі часопіс «Зіс уік мэгэзін» змясціў фотаздымкі настаўнікаў, якія працуюць на розных работах. Леслі Фернандэз — настаўнік адной з н'ю-йоркскіх школ — працуе па суботах і нядзелях прадаўцом у магазіне. Цімен Сціфенс з 5 да 10 гадзін вечара працуе сталяром у адной з майстэрняў, а Марысвіл са штата Пенсільванія вечарамі прыслужвае ў бары.

У сувязі з нізкай аплатай працы педагога, многія выкладчыкі школ не маюць спецыяльнай адукацыі. У радзе штатаў краіны было праведзена абследаванне, у выніку яго выявілася, што вялікая колькасць настаўнікаў не мае права выкладаць у школе.

Многія газеты і часопісы ўказваюць на тое, што выкладанне ў амерыканскіх школах вядзецца бессістэмна, без адзіных праграм. Вучням не прывіваецца любоў да ведаў. Гэта прыводзіць да таго, што школа не можа ўздзейнічаць на фарміраванне характару дзяцей. Вялікая колькасць малалетніх амерыканцаў выхоўваецца на гангстэрскіх фільмах, на «коміксах».

Не так даўно на экраны амерыканскіх кінотэатраў выйшаў фільм пад назвай «Школьныя джунглі». Яго аўтары паставілі перад сабой задачу паказаць жыццё сучаснай амерыканскай школы. Што-ж бачыць глядач у гэтым фільме? Вучні, замест таго, каб вучыцца, тэрарызуюць на ўроках настаўнікаў, даводзяць іх да роспачы. У фільме паказана, як банда вучняў збівае настаўніка.

Няма патрэбы даказваць, што такое, з дазволу сказаць, мастацтва, толькі садзейнічае росту дзіцячай злачыннасці, спаборнічаючы ў гэтым сэнсе з «коміксамі».

«Коміксы» ўяўляюць сабой апавяданні ў карцінках, якія паказваюць прыгоды герояў. Пад малюнкамі змяшчаюцца кароткія подпісы, пераважна воклічы ці выклічнікі.

У Амерыцы распаўсюджваецца велізарная колькасць «коміксаў». Паводле падлікаў амерыканскага друку, 90 працэнтаў усіх выданняў прыпадае на «коміксы» і параграфічную літаратуру. Больш паловы ўсіх «коміксаў» — гэта апавяданні аб злачынствах, садызме, аб розных учынках злодзеяў і бандытаў. Не выпадкова таму, што ў Злучаных Штатах зараз налічваецца каля мільёна малалетніх злачынцаў. Некаторыя юрысты нават унеслі прапанову зняць адбіткі пальцаў ва ўсіх амерыканскіх школьнікаў.

«Але было-б неразумна,— піша газета «Н'ю-Йорк таймс», — усё звальваць на «коміксы». Ёсць другія рэчы, якія ўздзейнічаюць на нашых дзяцей — кіно, радыё, тэлебачанне; нельга не ўлічваць уплыву дрэнных жыллёвых умоў, вулічнага разбою... Многае тлумачыцца і агульным узроўнем культуры».

Агульны ўзровень культуры... Італьянская газета «Месаджэро» апублікавала артыкул аб сярэднім культурным узроўні амерыканскіх грамадзян. Аўтар артыкула Сандро Дзіні піша: «Калі міланскі «Тэатр Піколо» ставіў п'есу Гальдоні «Слуга двух гаспадароў», я чытаў тэлеграму галоўнага рэдактара вядомага амерыканскага часопіса, адрасаванага карэспандэнту гэтага часопіса ў Мілане. У тэлеграме патрабаваліся звесткі аб Гальдоні і самае галоўнае — членам якой партыі з'яўляецца Гальдоні?»

Або яшчэ: італьянскія кінапрамыслоўцы запрасілі ў Італію аднаго вядомага амерыканскага артыста, прапанаваўшы яму здымацца ў кінофільме «Уліс», сцэнарый якога напісаны па матывах «Адысеі» Гамера. Артыст спытаўся ў кінапрамыслоўцаў, ці пісаў пан Гамер да «Уліса» яшчэ якія-небудзь кіносцэнарыі.

...Як бачым, нездарма амерыканскі друк забіў трывогу з повазу цяжкасцей амерыканскай школы, бо гэтыя цяжкасці — відавочныя.

**В. РАДНАКОЎ.**

ПОШТА „МАЛАДОСЦІ"

## Гісторыя аднаго рэкорда

19 год назад, у 1938 годзе, адбылася незвычайная для беларускага спорту падзея: у Мінску ўпершыню быў устаноўлены сусветны рэкорд. Гэты рэкорд устанавіў віцебскі штангіст Дзмітры Наумаў у жыме для атлетаў поўцяжкай вагі — 120,1 кг. Але Наумаў не першым з беларускіх спартсменаў пачаў штурм сусветных рэкордаў. Першым з савецкіх цяжкаатлетаў, які ўстанавіў сусветны рэкорд, быў ураджэнец г. Барысава Нікалай Шатаў. Але тады ён быў ужо масквічом і рэкорд належаў Маскве.

Жым Д. Наумава з'явіўся рэкордам свету для поўцяжкавагікоў і абсалютным рэкордам для Беларусі. Нават атлеты цяжкай вагі рэспублікі не выжымалі больш.

А праз год Наумаў, выступаючы ўжо ў цяжкай вазе, зрабіў яшчэ лепшы жым — 120,65 кг. Абодва рэкорды Наумава трымаліся доўга і пасля вайны.

Новыя метады трэніроўкі і больш дасканалая тэхніка выканання жыму дазволілі некальмім беларускім штангістам перавысіць выдатныя ў свой час вынікі Дзмітрыя Наумава. Спачатку гэтага дабіўся поўцяжкавагавік Мінска Уладзімір Турухін, а потым сярэдневагавік Іван Новік. Першы здолеў выжаць — 133 кг, другі — 127,5 кг.

Аднак абсалютны рэкорд БССР у жыме належыць цяжкавагавіку майстру спорту Яўгену Новікаву: 162,5 кг. Рэкорд Новікава з'яўляецца і рэкордам Савецкага Саюза. І не толькі ў нашай краіне. Мацнейшага «жымавіка» няма ва ўсёй Еўропе.

Жым — практыкаванне ў цяжкай атлетыцы, якое патрабуе галоўным чынам вялікай сілы. У 1940 годзе немец Мангер выжаў 145 кг. Гэта быў сусветны рэкорд у цяжкай вазе. Мангера ў той час лічылі фенаменам па сіле. Савецкія спартсмены неаднаразова спрабавалі адваяваць гэты рэкорд, але поспеху не мелі. Больш за ўсіх да яго прыблізіўся армейскі штангіст заслужаны майстар спорту Нікалай Лапуцін. Ён выжаў — 144 кг.

Яўген Новікаў упершыню атакаваў рэкорд краіны ў 1953 г. Ён пабіў рэкорд Лапуціна на 600 грамаў. А потым на працягу трох год ён яшчэ 15 разоў павышаў рэкорд краіны. «Фенаменальны» рэкорд Мангера быў ужо даўно пабіты, а Новікаў не супыняўся. У суперніцтве з абсалютным чэмпіёнам краіны масквічом Аляксеем Мядзведзевым ён у 1954 г. давёў рэкорд да 151,5 кг. У Мінску Новікаў пасяліўся ў пачатку 1955 г. Ужо ў лютым ён пабіў рэкорд Д. Наумава, які пратрымаўся 16 год. Для «пачатку» Новікаў выжаў 130 кг. Паляпшаючы беларускі рэкорд, ён адначасова павышаў і рэкорд краіны.

У ліпені 1955 г. Новікаў выжаў 153 кг, а ў верасні Мядзведзеў дадаў да яго рэкорда яшчэ 500 грамаў. У снежні Новікаў вярнуў сабе рэкорд, паказаўшы 154 кг. У тымжа месяцы чэмпіён краіны нанёс новы ўдар па рэкорду: адразу павысіў яго на 1,5 кг.

Толькі ў сакавіку 1956 г. Новікаў жымам у 156 кг. зноў авалодаў рэкордам СССР. Пасля гэтага ён яшчэ пяць разоў паляпшаў гэты рэкорд, але ўжо без барацьбы. Мядзведзеў, страціўшы надзею дабіцца лепшага выніку, ад «дуэлі» з Новікавым адмовіўся.

А беларускі чэмпіён працягваў ўдасканальваць свой рэкорд. У маі ён выступаў у Маскве на міжнародным матчы чатырох краін: СССР, Аўстрыі, Ірана і Польшчы. Першы падыход ён зрабіў да вагі 157,5 кг. Потым тут-жа ён выжаў 160 кг. У чэрвені Новікаў выязджаў у Кітай для таварыскай дапамогі кітайскім штангістам падрыхтавацца да алімпійскіх гульняў. Тут ён двойчы паляпшаў рэкорд краіны. У Пекіне ён выжаў 160,5 кг., а ў Ухані — 161 кг.

На Спартакіядзе народаў СССР у Маскве Яўген Новікаў зрабіў два цудоўныя жымы: першы — 161,5 кг, другі — 162,5 кг. Гэта новы рэкорд СССР і адначасова рэкорд Беларускай ССР.

16 разоў біў Новікаў рэкорд СССР у жыме і за іх атрымаў 16 залатых медаляў.

А як абстаіць справа з сусветным рэкордам? У табліцы сусветных рэкордаў вынік па жыму стаіць занадта высокі — 185,5 кг. Яго ўстанавіў летась амерыканец шведскага паходжання Пауль Андэрсен. Пауль Андэрсен — фенамен. Ён важыць каля 170 кг. Яго біцэпс роўны 64 см. Праўда, не кожны чалавек з такой вагой валодае вялікай сілай. Заходнегерманскі цяжкаатлет Ч. Аальдэрынг таксама важыць 170 кг, але выжымае ён толькі 150 кг.

Яўген Новікаў важыць усяго 113 кг і пры росце ў 172 см і біцэпсу ў 49 см гігантам яго ніяк не назавеш, але гэта незвычайнай сілы спартсмен. Ён многа трэніруецца, усебакова ўдасканальвае сваю фізічную падрыхтоўку, займаецца гімнастыкай, лёгкай атлетыкай, іграе ў тэніс. Ён яшчэ малады, поўны сіл і збіраецца надалей павышаць рэкорд краіны ў жыме.

І. ЦЫВЕС.

## Філаменісты

Так называюць калекцыянераў этыкетак ад запалкавых карабкоў.

Калекцыяніраванне запалкавых этыкетак — занятак такі-ж захапляючы, як і збіранне паштовых марак. Этыкеткі, як і маркі, маюць сваю гісторыю. Першая ў свеце запалкавая этыкетка з'явілася ў Вене ў 1837 годзе, гэта значыць на тры гады раней за першую паштовую марку. У Расіі вытворчасць запалак пачалася ў 1840 годзе. З таго часу рознымі фабрыкамі нашай краіны выпушчана прыкладна 20 тысяч самых разнастайных этыкетак. Многія з іх — асабліва дарэвалюцыйныя — уяўляюць цяпер вялікую рэдкасць.

Малюнкі на этыкетках адлюстроўваюць гісторыю краіны, напамінаюць аб знамянальных падзеях. Арктычны паход ледакола «Красін», будаўніцтва дырыжабляў, выратаванне чэлюскінцаў, рэкордны ўзлёт стратастата, адкрыццё Сельскагаспадарчай выстаўкі — вось некаторыя тэмы малюнкаў мінулых год. У часе Вялікай Айчыннай вайны этыкеткі ператварыліся ў мініятурныя плакаты, якія заклікалі да барацьбы супраць іншаземных захопнікаў. Многа юбілейных этыкетак прысвечана 800-годдзю Масквы, 300-годдзю ўз'еднання Украіны з Расіяй, 250-годдзю Ленінграда, 750-годдзю Рыгі, 200-годдзю Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта і г. д.

Як і маркі, этыкеткі нярэдка выпускаюцца серыямі, як, напрыклад, «Метро», «Спорт», «Спартакіяда народаў СССР», «Рускія пісьменнікі», «Памяці Суворава», «Санітарная серыя», «Сілуэты Ленінграда» і іншыя.

Сярод удзельнікаў фестывалю, напэўна, знойдзецца нямала філаменістаў: збіранне этыкетак за рубяжом атрымала шырокае распаўсюджанне. Рыхтуйце і вы свае калекцыі да фестывалю, каб абмяняцца з замежнымі сябрамі — вельмі прыемна будзе мець у іх этыкеткі з усіх мацерыкоў.

Дэвіз калекцыянера — акуратнасць і назіральнасць. Часам даводзіцца доўга ламаць галаву, каб вызначыць, у якой краіне выпушчана этыкетка: нярэдка аб гэтым гавораць толькі які-небудзь малапрыкметны знак — назва фабрыкі або горада, герб або характар малюнка.

Калекцыяніраванне этыкетак развівае таксама і цікаўнасць: узнікае жаданне даведацца, на якой мове зроблены надпісы, што адлюстравана на малюнку. Даводзіцца заглядваць у слоўнікі, энцыклапедыі, пытацца ў настаўніка, старэйшых.

Збіраюць этыкеткі многія, але не ўсе ведаюць, як з імі абыходзіцца, як наклейваць у альбом. Не трэба «здзіраць» этыкетку з фанеркі. Апусціце адламанае верхняе вечка карабка ў гарачую ваду, і праз мінуту-дзве этыкетка лёгка здымаецца. Малюнак ад гэтага не псуецца, таму што ён робіцца водаўстойлівымі фарбамі. Трэба толькі яго прасушыць, паклаўшы паміж аркушамі чыстай тонкай паперы. Калі яна прыклеіцца да паперы, выразаць яе нажніцамі.

Таксама як і маркі, этыкеткі наклейваюць у альбом пры дапамозе спецыяльных палосак клейкай паперы, якую можна купіць у магазінах, дзе прадаюцца паштовыя маркі для калекцый. Можна выкарыстаць таксама клейкія вугалкі для фото або краі ад аркушаў паштовых марак. Палоскі паперы можна зрабіць і самім са звычайнай паперы, намазаўшы яе паштовым клеем, клеем «Слон» для фото або крухмальным клейстарам. Канторскі клей не прыгодны, таму што ён робіць малюнак бескаляровым.

Савецкія этыкеткі лепш за ўсё наклейваць па прынцыпу: кожнай фабрыцы — свая старонка, таму што ў СССР больш дваццаці запалкавых фабрык і некаторыя з іх выпускаюць этыкеткі з аднолькавымі малюнкамі. Напрыклад, серыя «Сілуэты Ленінграда» выпускалася і ў Калузе, і ў Кіраве, і ў Барнауле. Замежныя этыкеткі можна групаваць па краінах.

І. ЛАГОЎСКІ.



## ІНЖЫНЕР ЛЮБОЎ АСТРОГА

Два гады назад, пасля заканчэння Мінскага політэхнічнага інстытута, камсамолка Любоў Астрога прыйшла на аўтамабільны завод, пачала працаваць тэхнолагам у кавальска-рысорным цэху. З першых дзён яна горача ўзялася за справу, з дапамогай сяброў камсамольцаў здолела як мае быць арганізаваць тэхналагічны працэс, хутка ўвайшла ў гушчу вытворчага жыцця.

Шмат папрацавалі рабочыя ўчастка на чале са сваім тэхнолагам Любай Астрога, каб своечасова асвоіць і арганізаваць серыйны выпуск дэталей новай лесавознай машыны. Яны своечасова, з найменшай затратай часу і металу, выдалі 25 складаных паковак. Гэта значна больш, чым было прадугледжана заданнем. Многа паковак дэталей, што раней рабіліся ўручную, цяпер апрацоўваюцца на станках, штампах і прэсах. Інжынер Любоў Астрога гаворыць:

— Мы можам працаваць яшчэ лепш. Трэба толькі хутчэй механізаваць работу на дапаможных працэсах, шырока ўкараніць комплексную механізацыю ў цэху.

Сапраўды, у кавальска-рысорным цэху ёсць яшчэ многа ўстарэлага. Даўно наспеў час перавесці працэс коўкі дэталей на штампоўку. Колькі было-б эканоміі металу, як-бы павысілася прадукцыйнасць працы!

Малады тэхнолаг разам са сваімі сябрамі - інжынерамі працуе над пытаннямі хутчэйшага пераходу на электрычны нагрэў паковак. На рабочым стале ў Любы Астрога побач з чарцяжамі — аб'ёмістыя папкі з дакументамі. На адной з іх чытаем: «Матэрыялы «Брыза». Любоў Астрога другі год узначальвае цэхавае бюро рацыяналізацыі і вынаходніцтва.

У цэху многа рабочых актыўна прымаюць удзел у рацыяналізатарскай і вынаходніцкай рабоце. Іх прапановы за мінулы год далі цэху каля двух мільёнаў рублёў эканоміі. Рабочыя-вынаходнікі на чале з маладым інжынерам выступаюць у цэху як змагары за тэхнічны працэс. Сама Л. Астрога — адзін з лепшых рацыяналізатараў аўтазавода.

І. ПУЧЫНСКІ.

На здымку: тэхнолаг кавальска-рысорнага цэха камсамолка Л. Ф. Астрога за працай.

Фото Ус. Марцыёнка.

## КРАСВОРД

Склаў А. Сысун.



**Па гарызанталі:** 1. Інертны газ. 3. Сузор'е. 6. Поўвостраў на поўначы СССР. 8. Дрэва. 10. Вулкан у Італіі. 13. Паўтарэнне. 15. Рашаючае становішча ў шахматнай гульні. 18. Краіна ў Афрыцы. 19. Выраб з гліны. 20. Частка кіноабсталявання. 21. Народнадэмакратычная рэспубліка. 22. Вуглевод. 23. Танец. 25. Совецкі пісьменнік. 28. Казацкі старшына. 31. Адзінка магутнасці. 33. Хімічны элемент. 35. Галоўная артэрыя. 36. Футбольны тэрмін. 38. Імклівы напад. 40. Поўпустыня ў Індыі. 41. Мера вагі. 43. Горад у Ірландыі. 44. Рыба. 45. Народны пясняр на Каўказе. 48. Напітак. 49. Струнны інструмент. 52. Страва. 54. Англійскі гуманіст XV — XVI ст. 56. Горацпартызан. 57. Поўвостраў у СССР. 58. Электрамагнітны прыбор. 59. Сталіца Афганістана. 60. Прыбор для вымярэння марскіх глыбінь. 62. Прыток Окі. 64. Атмасферная з'ява. 66. Воінскае званне. 68. Звер. 72. Горад у Румыніі. 73. Горад у Германіі. 74. Беларускі паэт. 76. Нямецкі кампазітар. 77. Горад у Беларусі. 78. Двухскладовая стапа. 80. Прыток Місісіпі. 81. Партугальскае ўладанне ў Індыі. 83. Электраэнергія. 85. Яйкакладучае млекакормячае. 89. Былінны герой. 92. Украінскі паэт. 95. Горад у Беларусі. 96. Частка генератара. 97. Музычны твор. 98. Сталіца Канады. 99. Чалавек, які напісаў кнігу. 100. Татарская вёска. 102. Рака ў Афрыцы. 104. Упакоўка. 105. Штучная смала. 106. Рака на Каўказе. 107. Залежная ад Англіі дзяржава. 108. Крыніца ведаў.

**Па вертыкалі:** 1. Рускі кампазітар. 2. Рака ў Казахстане. 4. Востраў. 5. Астэроід. 7. Хімічны элемент. 9. Прадстаўнік народнасці, што насяляе Кітай. 11. Горад у Эстоніі. 12. Сталіца Нарвегіі. 13. Краіна ў Азіі. 14. Эмблема дзяржавы. 15. Твор А. М. Горкага. 16. Сталіца Японіі. 17. Беларуская полька. 23. Дрэва з пароды хвойных. 24. Востраў у Іянічным моры. 26. Прыток Волгі. 27. Самае вялікае млекакормячае. 29. Від мастацтва. 30. Мера выкананай працы. 31. Прыток Дуная. 32. Донны невад. 33. Мелкае месца ракі. 34. Сузор'е. 35. Парода папугаяў. 37. Планета. 39. Насякомае. 42. Возера ў Амерыцы. 43. Праліў. 46. Народны артыст Саюза ССР. 47. Вулкан у Ісландыі. 49. Продак тонкарунннай мерыносавай авечкі. 50. Спадарожнік Марса. 51. Месяц. 53. Афіцыйны дакумент. 54. Горад у Францыі. 55. Рака ў Карэі. 61. Поўсамастойная дзяржава ў Азіі. 63. Планета. 64. Сталіца адной з еўрапейскіх дзяржаў. 65. Рыба. 66. Рыба. 67. Горад у Францыі. 69. Возера ў Фінляндыі. 70. Горад у Фінляндыі. 71. Накід чарцяжа. 73. Адзінка работы. 75. Кухар на караблі. 78. Рака у Сібіры. 79. Дрэва. 82. Трагедыя Шэкспіра. 84. Рака ў Румыніі. 86. Элемент з групы галагенаў. 87. Сузор'е. 88. Цэнтр Хакаскай АССР. 89. Мэбля. 90. Літаратурны твор. 91. Горад на поўначы Афрыкі. 92. Рыба. 93. Горад у Англіі. 94. Марская назва ветру. 101. Цэнтр Башкірыі. 103. Атам у зараджаным стане.

## Рукой мастака

**Мастака Яўгенія Рачова ведаюць і малыя і старыя. Хто не помніць яго цудоўных малюнкаў да народных казак. На дурнаватым, але самаўпэўненым ваўку едзе хітрая лісіца. Біты нябітага вязе — так і гаворыць яе лісіная усмешка. А прагныя медзведзяняты! Ганарыстыя пеўні! Катафей Катафеевіч з вядомай усім казкі. Створаныя таленавітым мастаком персанажы назаўсёды застануцца ў памяці.**

**Нядаўна ў Маскве была арганізавана выстаўка твораў мастака. І вось тут мы даведаліся яшчэ аб адным баку дзейнасці Я. Рачова. У шкляных шафах мастак выставіў дзівосныя фігуркі, якія ён ўсё жыццё робіць для сябе.**

**Вось што расказаў нам сам мастак:**

**— Я вельмі люблю паляванне. Узяўшы стрэльбу на плячо, прыемна прайсціся па нашых рускіх лясах і балотах, назіраць усходы сонца, паводкі і звычкі звяроў і птушак, або проста любавацца непаўторнай рускай прыродай. І вось бывае так: ідзеш па лесе, і раптам табе трапляецца стары і ўжо даволі папсуты дажджамі і снегам корань вольхі, або дачасна ссечанай хвойкі. Корань як корань, але прыгледзішся ўважлівей, і перад табой ужо не корань, а нейкая прыродай зробленая скульптура. Абрэжаш лішнія карэньчыкі, і вось ужо ва ўсёй прыгажосці перад зрокам паўстае балерына. А то аднойчы мне трапіўся пянёк. Я ажно здзівіўся: да чаго ён падобны на галаву бычка. Неяк я вырваў корч аеру. Яго корань мне нагадваў нейкую фантастычную істоту — сядзячага канька-Гарбунка. Тут нават нож не спатрэбіўся. А вось фігурка, падобная і на жука і на слана — кавалак кары з прыстаўшымі да яе трэскамі. Чаму я выставіў гэтыя дзіўныя незвычайным чынам зробленыя фігуркі? Мне здаецца, што моладзь, выязджаючы ў лес, заўсёды можа там знайсці цікавы занятак. Як бачыце, з карэньчыкаў пнёў, шышак можна рабіць прыгожыя рэчы.**

**Мы даем некалькі своеасаблівых скульптур Я. Рачова. Яны, напэўна, дапамогуць вам пільней прыглядацца да прыроды, рабіць цікавыя і мастацкія рэчы.**

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА», змешчаны ў № 1 часопіса

**Па гарызанталі:** 1. «Сакавік». 4. Шэкспір. 6. Рэмбрандт. 7. Бехер. 9. «Аіда». 10. «Бэла». 12. Ірвінг. 15. «Багема». 17. «Сурок». 18. Данко. 20. Файер. 22. Рабле. 23. Лермантаў. 24. «Апора» (па-руску «Оплот»). 25. «Брага». 27. Коган. 29. Гліэр. 31. Пікасо. 32. Райніс. 34. «Клоп». 36. «Лара». 39. Корын. 40. Нежданава. 41. «Адплата». 42. Нікіцін.

**Па вертыкалі:** 1. «Спевакі». 2. «Крыллі». 3. Брэхт. 4. Штробл. 5. «Русалка». 7. Брамс. 8. Рыбак. 9. Агін. 11 «Абай». 13. Руставелі. 14. «Брыгадзір». 16. Мусаргскі. 18. Дэліб. 19. «Алека». 20. Франк. 21. Рэпін. 26. «Амок». 28. «Гара». 29. «Гапак». 30. Ралан. 31. «Палтава». 33. Скрабін. 35. Левіна. 37. Робсан. 38. «Ермак».

### АДКАЗЫ на красворд, змешчаны ў № 2 часопіса

**Па гарызанталі:** 5. Павузак. 7. Петэль. 8. Партызаны. 11. Пакет. 14. Парта. 15. Парафін. 16. Празаік. 17. Палтава. 20. Пыласос. 22. Плато. 23. Пафас. 26. Перыгелій. 27. Пазітыў. 28. Перагон.

**Па вертыкалі:** 1. Палувал. 2. Палас. 3. Песня. 4. Планета. 6. Прыклад. 9. Перламутр. 10. Патранташ. 12. Пазіцыя. 13. Піфагор. 14. Палігон. 19. Плантыж. 21. Патэфон. 24. Петыт. 25. Пікет.

### АДКАЗ на задачу «У поўнач пад Новы год», змешчаную ў № 1 часопіса

Коля і Міша павінны абодва правільна паставіць свае гадзіннікі 21 лютага 1957 года ў 24 гадзіны ночы, і гадзіннікі іх пакажуць тады адначасова правільны час у 24-00 пры сустрэчы Новага... 1967 года, гэта значыць — праз 9 год 10 месяцаў і 7 дзён.

**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак, прысвечаны падрыхтоўцы да Усебеларускага фестывалю.**


**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость».**

Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

АТ 02741. Фармат паперы $70\times108\,^1/_8$. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7. Здадзена ў набор 13. II. 57 г. Падпісана да друку 28. II. 57 г. Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 93.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



Бывайце, сябры, да хуткіх сустрэч. Чакайце мяне ў госці. Бацька мне купіў нядрэнную машыну. Праўда, яна дасталася яму лёгка. У чарзе ён не стаяў, адзначацца не ездзіў. Чырк-чырык пяром — і гатова машына. Вось якая ў нас тэхніка!

Да наступных сустрэч!



